◂ № 37 (358) ◂ 4 кастрычніка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**ВАЙНА З-ЗА МАЛЕНЬКІХ ПРЫГАЖУНЬ**

Стар. 13

**КРАІНА, У ЯКОЙ НЕ БЫЛО КРЫЗІСУ**

Польшча — адзіная краіна Еўрасаюза, у якой на працягу «крызісных гадоў» ВУП не падаў ніжэй плінтуса. І нават не апускаўся да нулявой пазнакі. ВУП заўсёды рос. Нават у самы крызісны 2009-ы яго рост склаў 1,6%.

Стар. 5

**МОВА ЯК ПРЫКМЕТА АБРАНАСЦІ**

Беларуская мова адчыняе дзверы да разумення і паскоранага вывучэння моваў краін-суседак — украінскай і польскай. Вядомы і той факт, што білінгвы больш лёгка вывучаюць трэцюю мову ды іншыя знакавыя сістэмы

Стар. 6

**ЯЎГЕН ПЕТРАШЭВІЧ: «МУЗЫКА — МАЁ ЖЫЦЦЁ»**

Стар. 14

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КРЭПАСЦІ, ЯКІХ БАЯЎСЯ СТАЛІН**

Нарыс Ігара Мельнікава

З НАГОДЫ

# МІНУС СТО ДОЛАРАЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Лукашэнка прызнаўся, што не падумаў. Ягоную заяву пра тое, каб браць па сто долараў з кожнага, хто выязджае з краіны, не варта ўспрымаць сур'ёзна. Ляпнуў гэта ад паўнаты душы. У прынцыпе, ніхто б і не ўспрыняў яе так балюча, каб не чыноўнікі, якія звыклі глядзець у рот «бацьку».**




Ад самага пачатку гэтая ідэя выглядала цмянай. Найперш, усе юрысты-законнікі паведамілі, што такая ініцыятыва мае з законам няшмат агульнага. Бо па Канстытуцыі кожны грамадзянін мае права вольна пакідаць і вяртацца ў Беларусь. Якія-кольвек перашкоды для выезду, кшталту той жа пошліны ў 100 долараў, супярэчаць міжнародным пагадненням Беларусі. Але калі ў нас зазіралі ў законы і пагадненні, калі справа тычылася вялікіх грошай?

Не было б ніякага ажыятажу: пасмяяліся б чарговы раз над словамі правадыра — і ўсё. Каб не стукнула ў галаву некаторым дзеячам ва ўрадзе, што пошліна «сто баксаў з рыла» — гэта так неабходныя бюджэту валютныя паступленні амаль з паветра. І заварушыліся адказныя чыноўнікі, пачаўшы думаць, як бы гэта зрабіць на справе.

Лукашэнка выказаўся пра пошліну 6 верасня. Ужо 11 верасня Пётр Пракаповіч заявіў, што пра месяц-паўтара ён будзе гатовы дакласці прэзідэнту, як ажыццявіць гэтую ідэю. Складанасць заключалася ў тым, што чыноўнікі — таксама людзі, і яны таксама ездзяць за мяжу. Кожны раз плаціць па сто долараў ім таксама не цікава, як і шараговым грамадзянам. Таму Пракаповіч абяцаў, што «сто долараў» не будзе тычыцца турыстаў.

Але Пракаповіч хаця б прапанаваў разабрацца, каму трэба плаціць выязную пошліну, а каму не трэба. Дзяржаўны мытны камітэт Беларусі 18 верасня заявіў аб сваёй гатоўнасці спаганяць «выязную пошліну» з беларусаў, якія едуць за мяжу, у выпадку прыняцця такога рашэння ўладамі. 20 і 21 верасня чатыры ведамствы: Нацбанк, Нацыянальны статыстычны камітэт і Дзяржаўныя мытны і памежны камітэты правялі супярэчлівае разавае анкетаванне на беларускай мяжы. Ад грамадзян патрабавалася адказаць, едуць яны за мяжу ў якасці «турыстаў», альбо «чаўнакоў», і колькі грошай патрацілі за мяжою.

Больш дурны крок прыдумаць было цяжка. Вартасць такога апытання — нуль, бо хто ж ім праўду скажа? А вось жарсцяў у кацёл стодоларавай пошліны гэта падліло.

Намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга таксама адзначыўся. Паводле ягонага меркавання, пошліна ў 100 долараў знізіць чэргі на мяжы, што дазволіць хутчэй прайсці мяжу замежным турыстам, якія едуць у Беларусь. Заўважце, трэба не паляпшаць працу памежных пунктаў, не працаваць, заваблiваючы турыстаў і ствараючы ім камфортныя ўмовы, а не выпускаць за мяжу сваіх. Тады на памежных пераходах будзе ціха, спакойна і без чэргаў.

Менавіта дубаломства чыноўнікаў і іх апантанасць дагадзіць кіраўніцтву і стала падставай для таго, каб народ заварушыўся. У інтэрнэце пад петыцыяй супраць пошліны за дзень падпісалася 15 000 чалавек. Па памежных рэгіёнах улады атрымалі дзясяткі заявак на пікеты супраць новага мыта. Апазіцыя распачала кампанію «Пошліна? Пайшлі на!», і гэтая кампанія абяцала быць папулярнай у народа. А ў некаторых гарадах папаўзлі чуткі пра гатоўнасць аўтааматараў перакрыць мяжу сваімі машынамі, — толькі б пошліны не было.

«Я руплюся не за тое, каб забараніць выезд нашым грамадзянам, я перажываю, што пад 3 мільярды долараў валюты вывозіцца штогод з краіны. Вось ляпнуў, сабе на шкоду, напэўна. Хоць я гэтага не баюся», — прызнаўся Лукашэнка на «Дажынках».

Цікава, што зараз будуць рабіць чыноўнікі? Чым зоймецца Пракаповіч? Што будзе рабіць Шульга? Куды Нацбанк і іншыя засунуць сваю апытанку?

Некаторыя аналітыкі мяркуюць, што Лукашэнка спужаўся «народнага бунту» перад выбарамі. Наўрад ці гэта так. Рэгулярна за мяжу ездзіць не так ужо і шмат народу. Хутчэй за ўсё, спрацавала некалькі фактараў. Напрыклад, поўная немагчымасць адрозніць турыста ад камандзіровачнага, а камандзіровачнага ад «чаўнака». Да таго ж, у нас адкрытая мяжа з Расіяй, праз якую можна вольна патрапіць у тую ж Літву ці Латвію і без ста долараў мыта. Дый Расія можа прапанаваць беларусам не меншы асартымент сваіх тавараў.

Замест ста долараў пошліны кіраўнік Беларусі прапанаваў іншую ідэю: абкладаць падаткам тавары, якія ўвозяцца ў краіну — своеасаблівы «падатак на імпарт». Наўрад ці гэта спрацуе. Па той жа прычыне: «прамысловы» ўвоз імпарту і без таго абкладаецца падаткам. А правілы ўвозу рэчаў для асабістага карыстання рэгулююцца Мытным саюзам.

Да таго ж пытанне з «падаткам на імпарт» вельмі спрэчнае з пункту гледжання эканомікі. Пра падатак у 100 долараў усё зразумела: прадухіліць вываз валюты з краіны. Маўляў, купляйце беларускае за беларускія рублі. Якім чынам «падатак на імпарт» зробіць вываз валюты немагчымым — гэта пытаннечка, бо плаціць яго будуць усё роўна ў казну ў беларускіх рублях.

Раней Лукашэнка быў заклапочаны тым, што з-за мяжы вязуць «тое самае барахло, якое робіцца і ў нас». Падатак на імпарт, як адзначаюць эканамісты, можа прывесці да таго, што ў нас увогуле анічога, апроч барахла, вырабляцца не будзе. Бо зазвычай абмежавальныя меры для імпарту ўводзяцца, каб айчынныя прадпрыемствы «набралі вагу» — атрымалі грошы, уклалі іх у інавацыі і новыя тэхналогіі, мадэрнізавалі вытворчасць і пачалі вырабляць прадукцыю, лепшую за імпарт.

«Падатак на імпарт», уведзены «пажыццёва», паставіць беларускія прадпрыемствы навечна ў «ільготную» катэгорыю. То бок, у «парніковыя» ўмовы, калі канкурэнцыя адсутнічае. А калі адсутнічае канкурэнцыя, няма стымулаў для развіцця і выпуску новай і якаснай прадукцыі. Такім чынам, «парнік» ператвараецца спачатку ў застой, потым у «балота», а потым і ў багну, якая зацягне беларускія прадпрыемствы з галавою. І выбрацца з гэтай багны магчымасці не будзе.

Не кажучы ўжо пра тое, што «падатак на імпарт» засведчыць поўны правал беларускай мадэрнізацыі, якой мы так ганарымся.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. ЗАБАРОНА НА ПРАФЕСІЮ

**Сябар Партыі БНФ Аляксандр Ільінец працаваў майстрам у брыгадзе цэху ўласнай вытворчасці ў краме №139 гандлёвай сеткі «Веста», займаўся выпечкай хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў. Яму прапанавалі развітацца з працай «па-добраму», пасля тэлефоннага званка дырэктарцы крамы.**

Аляксандр цвердзіць, што праблемы пачаліся пасля таго, як стала вядома пра ягоны ўдзел у кампаніі «Зробім лепш».

«У нашым двары мы вырашылі добраўпарадкаваць тэрыторыю, абсталяваць дзіцячую пляцоўку. Правялі сход мясцовых жыхароў з дамоў №№ 31, 29 па вуліцы Чкалава, сабралі подпісы пад калектыўным лістом, звярнуліся ў службу ЖКХ. І нам нават паабяцалі дапамогу — прывесці ўсе неабходнае для дзіцячай пляцоўкі. І як толькі артыкул пра гэта з'явіўся на сайце «Народныя Навіны Віцебска», літаральна праз пару дзён у двары пачался інтэнсіўная праца: аднекуль сабралі дворнікаў, яны пачалі прыбіраць, усталёўваць лавачкі… А неўзабаве пад'ехаў аўтобус з нейкімі людзьмі — пераважна мужчынамі ў пінжаках і гальштуках, якія пачалі аглядаць тэрыторыю ды запісваць, што тут ёсць і чаго няма», — распавёў Аляксандр Ільінец.

На наступны дзень ён зайшоў па вытворчых справах да дырэктаркі крамы і стаў сведкам тэлефоннай размовы:

«Дырэктарка Алена Андрэева казала ў слухаўку: «А вось ён якраз і тут». Пэўны час моўчкі слухала, што ёй кажуць, а потым папрасіла мяне выйсці. Праз колькі хвілінаў запрасіла мяне ў кабінет ізноў. Ды сказала, што мае паслугі гэтай краме больш не патрэбныя. Што ёй патэлефанавалі і параілі са мной развітацца па-добраму. А прычыну, маўляў, я сам ведаю. З кім размаўляла дырэктарка, мне даведацца не ўдалося. Аднак пра прычыну я здагадваюся: справа ў грамадскай актыўнасці — што я нібыта падбухторваю людзей да чагосьці кепскага. Хаця насамрэч мы проста хацелі зрабіць свой двор больш утульным».

### БАРАНАВІЧЫ. СКАРГА НА ПРАКУРОРА

**Сябра Руху «За свабоду» Віктар Сырыца накіраваў скаргу пракурору Брэсцкай вобласці на дзеянні баранавіцкага міжраённага пракурора, які, на думку грамадскага актывіста, ухіляецца ад выканання сваіх абавязкаў.**

У скарзе паведамляецца, што пастановай суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Кацярыны Груда ад 31 ліпеня 2013 годзе ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні правапарушэння, прадугледжанага арт. 23.34 КаАП РБ і прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь.

Віктар Сырыца 9 жніўня 2013 г. звярнуўся да Баранавіцкага міжраённага пракурора з заявай, у якой прасіў яго прынесці пратэст.

«Лічу, што баранавіцкі міжраённы пракурор ухіліўся ад выканання свайго абавязку. Я, безумоўна, удзячны яму за дадзеныя тлумачэнні адносна таго, куды і якім чынам я магу звярнуцца па абарону сваіх правоў. Разам з тым я прасіў менавіта баранавіцкага міжраённага пракурора дапамагчы мне абараніцца ад незаконнай, з майго пункту гледжання, судовай пастановы. Я прасіў яго прынесці менавіта пратэст, а не тлумачыць, куды і як я магу звярнуцца ў дадзеным выпадку. І калі, па меркаванні пракурора, падстаў для прынясення пратэсту не было, то менавіта аб гэтым трэба было і пісаць у адказе на маю заяву. Але найперш трэба было запатрабаваць з суда справу. Не зрабіўшы гэтага пракурор якраз і ўхіліўся ад выканання свайго службовага абавязку, чым парушыў дзеючае заканадаўства», — адзначыў Віктар Сырыца.

Таму, зыходзячы з вышэйвыкладзенага і кіруючыся арт. 55 Закона «Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь» грамадскі актывіст просіць пракурора Брэсцкай вобласці прыцягнуць баранавіцкага міжраённага пракурора да прадугледжанай заканадаўчымі актамі адказнасці.

**Калонка падрыхтаваная па матэрыялах сайта spring96.org**

## ПАМЁР ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ

**З кастрычніка сышоў у лепшы свет вядомы апазіцыйны палітык, таленавіты журналіст, шчыры і гасцінны чалавек.**



Віктар Івашкевіч памёр у 9-й лякарні, дзе ў аддзяленні трансплантолагіі чакаў перасадкі печані. Не дачакаўся, донара так і не знайшлося.

21 верасня яму толькі споўнілася 54 гады. Наперадзе было столькі планаў і спадзяванняў…

Віктар Івашкевіч быў удзельнікам «Майстроўні» і «Талакі», Арганізатарам страйкамаў у 1991 годзе і рэактарам газеты «Рабочы». Да 2009-га — намеснікам старшыні Партыі БНФ. Стаў адным са стваральнікаў «Беларускага руху».

Шмат разоў яго штрафавалі і арыштоўвалі. У кастрычніку 2002 года быў асуджаны на два гады абмежавання волі за публікацыю артыкула «Злодзей павінен сядзець у турме», у якім пракуратура ўбачыла паклёп на кіраўніка Беларусі.

Калектыў НЧ выказвае шчырыя спачуванні ўсім, хто ведаў Віктара, смутке і будзе памятаць.

▸ **ВЫБАРЫ**

## ПАПРАЎКІ Ў ВЫБАРЧАЕ ЗАКАНАДЎСТВА

**Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў 2 кастрычніка аднагалосна прынялі ў першым чытанні папраўкі ў некаторыя законы Беларусі па пытаннях правядзення выбараў і рэферэндумаў.**

Лідзія Ярмошына паведаміла, што непасрэдна з экспертамі БДІПЧ АБСЕ папраўкі ў выбарчае заканадаўства не абмяркоўваліся. Аднак, адзначыла яна, на нарадах з удзелам прэзідэнта была заслухана інфармацыя МЗС па гэтым пытанні. «Розныя прапановы» БДІПЧ увайшлі ў законапраект, а шэраг палажэнняў дакумента былі распрацаваны «ў духу і ключы» рэкамендацый міжнародных экспертаў.

Праект прадугледжвае ўнясенне ў выбарчае заканадаўства шэрагу навін. Так, прапануецца правядзенне выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у адзін тур, а пераможца ў іх будзе вызначацца згодна з прынцыпам адноснай большасці.

Мяркуецца змяніць парадак фінансавання выбарчых кампаній. Так, на прэзідэнцкіх выбарах будзе павялічаны з трох да дзевяці тысяч базавых велічынь памер асабістага фонду кандыдата. Пры гэтым фарміраваць яго можна будзе не пасля рэгістрацыі кандыдата, а з моманту рэгістрацыі яго ініцыятыўнай групы.

Будуць таксама зменены абмежаванні пры ўнясенні ў фонд асабістых сродкаў кандыдата.

Памер выбарчага фонду кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў застанецца ранейшы — адна тысяча базавых велічынь, на мясцовых выбарах у залежнасці ад узроўню савета — да 10 і да 30 базавых велічынь. Кандыдату не будуць выдзяляцца бюджэтныя сродкі на выраб перадвыбарных матэрыялаў. Вызваленыя пры гэтым сродкі будуць накіраваны на выраб выбарчымі камісіямі інфармацыйных матэрыялаў пра кандыдатаў. Інфармацыйныя матэрыялы будуць накіроўвацца кожнаму выбаршчыку разам з паведамленнем пра дату і час галасавання.

Законапраект прапануе пры правядзенні выбарчых кампаній, кампаній па рэферэндуме ўвесці забарону на ажыццяўленне дзеянняў, якія схіляюць да зрыву, адмены ці пераносу тэрміну выбараў, рэферэндуму.

Абмяжоўваецца кола асоб, якія маюць права падаваць заявы на паўторны падлік галасоў. Цяпер гэты пералік не вызначаны. У праекце прапануецца даць такое права толькі кандыдатам, а таксама выбарчым камісіям.

Прапануецца таксама ўстанавіць межавы 10-дзённы тэрмін падачы зваротаў пра парушэнне выбарчага заканадаўства пасля правядзення выбараў ці рэферэндуму.

Акрамя таго, законапраект дапаўняе пералік пытанняў, якія не могуць выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, указаннем на ўстанаўленне, змяненне і адмену збораў (пошлін).

Дэмакратычныя партыі і арганізацыі выказвалі занепакоенасць з нагоды распрацоўкі паправак у выбарчае заканадаўства, у прыватнасці, з-за таго, што праект дакумента не быў вынесены на шырокае абмеркаванне.

**Паводле БелаПАН**

▸ **СПРАВАЗДАЧА**

## ШТО МОЖА ДЭПУТАТ БЕЗ МАНДАТУ

**Сяргей ПУЛЬША**

**Вельмі рэдка мы чуем ад палітыкаў, асабліва апазіцыйных, пра іх працу. Гэтую практыку 3 верасня вырашыла зламаць кампанія «Гавары праўду!».**

Год таму прыкладна ў гэтыя дні прайшлі чарговыя парламенцкія выбары. Шмат нам на іх абяцалі. Прынамсі, кампанія «Гавары праўду!» казала ўсім: «Мы не кідаем народ!» Абяцалася, што кандыдаты ў дэпутаты ад «ГП» застануцца працаваць на выбарчых акругах у якасці альтэрнатыўных дзеючым дэпутатам. І, як сказаў на прэзентацыі вынікаў кампаніі «Грамадзянская дамова» каардынатар «ГП» Андрэй Дзмітрыеў, збольшага гэта ўдалося.

З кастрычніка мінулага года ў краіне працавала 18 офісаў кампаніі «Грамадзянская дамова». За год працы да актывістаў «ГП» звярнулася больш за дзве тысячы чалавек, сотня з іх засталася працаваць у кампаніі. З дапамогай «альтэрнатыўных дэпутатаў» было рэалізавана каля 30 грамадзянскіх ініцыятываў. Напрыклад, актывісты дамагліся таго, што мясцовыя ўлады сталі публікаваць бюджэты гарадоў і раёнаў. «Альтэрнатыўшчыкаў» сталі запрашаць на пасяджэнні мясцовых саветаў, абмяркоўваць з імі бягучыя праблемы. «У некаторых месцах — мы маем тры такіх выпадкі — нашым «дэпутатам» прапанавалі кінуць кампанію «Гавары праўду!» і пайсці працаваць у раённыя ці гарадскія саветы альбо выканкамы на стаўку», — адзначыў Дзмітрыеў.




«Альтэрнатыўныя дэпутаты» вырашалі такія пытанні, якія падаваліся амаль безнадзейнымі: у 90% выпадкаў у офісы «Грамадзянскай дамовы» звярталіся людзі, якія ўжо прайшлі ўсе магчымыя інстанцыі, каб вырашыць сваю праблему. І гэтыя праблемы, з дапамогай актывістаў «ГП», у асноўным вырашаліся.

У Бялынічах дзякуючы «альтэрнатыўнаму дэпутату» шматдзетныя сем'і нарэшце атрымалі належныя ім новыя кватэры. У Бабруйску было пабудавана пяць прыпынкаў грамадскага транспарту і зроблены рамонт у паліклініцы. «Кітайскі тэхнапарк» у Смалявічах зараз праходзіць не па гародах і дамах жыхароў, і нават вырашаецца пытанне кампенсацыі жыхарам у выпадку ўшчамлення іх інтарэсаў. У Рэчыцы актывіст «Грамадзянскай дамовы» Юрый Брэль змагаўся за правядзенне ў гэтым мястэчку «Дажынак–2013». Не для таго, каб свята там было, а для выдзялення грошай на рамонт і добраўпарадкаванне горада. «Дажынкі» прайшлі ў Жлобіне, але ў Рагачове нарэшце знайшліся грошы на рамонт паліклінікі і іншых месцаў горада.

«Нам шмат казалі, што мы нічога не даможамся, што не варта і пачынаць, што чыноўнікі нас не паслухаюць, што гэта не мае сэнсу і вынікаў. Але падчас гэтай работы мы зразумелі, што першыя крокі — самыя цяжкія, і ў Беларусі не можа быць хуткіх вынікаў. Звычайна людзі адзін раз занясуць подпісы пад ініцыятывай, атрымаюць адпіску — і на гэтым усё. У нашай краіне ўсё пабудавана так, што першыя пяць-шэсць крокаў — надзея чыноўнікаў на тое, што людзі зняверацца і адчэпяцца ад іх, пабачыўшы марнасць працэсу. Але вынікі працы з'яўляюцца, калі пройдзеныя гэтыя крокі, вынік з'яўляецца на другім этапе працы», — тлумачыць Дзмітрыеў.

Не ўсё ў кампаніі было так проста. «Кожны месяц «альтэрнатыўныя дэпутаты» павінны даваць справаздачу аб зробленай працы. У выніку за год мы "адклікалі" двух такіх дэпутатаў: у Рагачове і Светлагорску, бо яны нічога не рабілі», — кажа Дзмітрыеў.

Зараз у «альтэрнатыўных дэпутатаў» наперадзе мясцовыя выбары. Гэта не проста спроба «легалізавацца». Гэта яшчэ і выхаванне новых рэгіянальных лідараў, і своеасаблівае навучанне тых, хто ў будучыні здолее стаць сапраўдным кіраўніком мясцовых гарадскіх і раённых адміністрацый. «Мы выхоўваем не рэвалюцыянераў, мы выхоўваем палітыкаў, якія ў будучым павінны ведаць праблемы грамадзян, разумець, як яны вырашаюцца, што такое мясцовы бюджэт, як ён працуе, і іншыя рэчы. Адначасова мы высоўваем і альтэрнатыву мясцовым уладам, бо, што б там ні казалі, пытанне пабудаваць «лядовы палац» замест рамонту паліклінікі прымаюць мясцовыя ўлады», — адзначае Дзмітрыеў.

І неўзабаве — яшчэ адзін праект па мясцовым бюджэце. «Мы дамагліся таго, каб улады агучвалі бюджэт. Але ў законе не прапісана самага цікавага — як ён выконваецца, куды ідуць грошы грамадзянаў. У перспектыве мы павінны глядзець і за гэтым», — адзначыў Дзмітрыеў.

Так што «альтэрнатыўныя дэпутаты» працягнуць сваю нялёгкую працу.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ШТО Ж МЫ АДСВЯТКАВАЛІ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Жлобіне з размахам прайшлі «Дажынкі–2013». Свята ўраджаю апынулася вясёлым яшчэ да ягонага пачатку. Невядома, каму належала гэтая смешная ідэя — правесці агульны сельскагаспадарчы сход у горадзе металургаў. Але ўсё ж адсвяткавалі.**



Пасля святаў заўсёды надыходзіць пахмелле: а ці было што святкаваць? Лічбы хранічна хворай беларускай сельскай гаспадаркі не радуюць. Як падлічыў Белстат, у сельскагаспадарчых арганізацыях аб'ём вытворчасці прадукцыі за 8 месяцаў 2013 года ў параўнанні з 8 месяцамі 2012 года зменшыўся на 3%. Вытворчасць прадукцыі раслінаводства за гэты час зменшылася на 8,6%. Малака надаілі на 1,9% менш. Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі і паслуг у сельскай гаспадарцы за год упала з 20,3% да 9%. Рэнтабельнасць продажаў па канчатковым фінансавым выніку без дзяржпадтрымкі ўпала з 10,4% да 1,1%.

Колькасць стратных арганізацый сельскай гаспадаркі без дзяржпадтрымкі павялічылася з 434 да 800. Сума чыстых стратаў у гэтай галіне вырасла ў 3,7 разы. І гэта ўсяго толькі за год!

Не сказаць, каб сённяшняе лета было надзвычайным па ўмовах надвор'я. Здаецца, яно было нават менш праблемным, чым звычайна. Так, надышло яно даволі раптоўна: позняя зіма і гэтак далей. Але гэта не пашкодзіла грамадзянам на сваіх падворках ды лецішчах збіраць надзвычайныя ўраджаі. Дык чаму ж гэтага нельга сказаць пра калгасы?

Ураджайнасць збожжавых упала з 38,2 у 2012 годзе да 33,4 цэнтнера з гектара ў гэтым годзе (гэта без кукурузы). На гэты момант ураджай збожжавых на 1,765 мільёна тон менш за леташні. І гэта менш за ўраджаі 2008, 2009, 2011 і 2012 гадоў.

Нельга наракаць і на тое, што дзяржава недастаткова надае ўвагі сельскай гаспадарцы. Да звычайных датацый у калгасы, якія, па падліках эканамістаў, зараз складаюць 5–7 мільярдаў долараў на год, зараз вельмі шчасліва для некаторых далучыўся крызіс перавытворчасці. Памятаеце, яшчэ ўвесну, калі высветлілася, што нашыя трактары і грузавікі раптам перасталі прадавацца ў Расіі, прэзідэнт загадаў іх аддаць айчыннай сельскай гаспадарцы? Было ж дадзене «разгрузіць склады» любым чынам: у лізінг, у крэдыт, па сабекошце і ледзьве не «проста так», ад чыстага сэрца. Так што наракаць на старую тэхніку і гэтак далей таксама не даводзіцца. Усё павінна быць новым.

Што ж перашкаджае сельскай гаспадарцы? Тут ужо не зваліш віну на «народзец», бо гэты «народзец» быў заняты тым, што валюту скупляў.

Але прэзідэнт заўсёды знойдзе вінаватых. Зараз вінаватымі апынуліся… Злучаныя Штаты Амерыкі, як заўсёды.

У інтэрв'ю казахскаму тэлеканалу «24KZ» напярэдадні свайго візіту ў гэтую краіну Аляксандр Лукашэнка выказаў сваё бачанне канфлікту ў Сірыі. «Дабром гэта не закончыцца. Не дай Божа, амерыканцы ўлезуць туды, як яны ўлезлі ў Лівію, і ў цэлым блок NATO, пачнуць бамбіць, то катастрофа, будзе катастрофа. Вось тады ўспыхне ўся арабская дуга, як казаў былы прэзідэнт ЗША, тады мала не пакажацца ўсім. Бо ў гэты канфлікт будзе ўцягнуты праз Ірак і Іран, і іншыя дзяржавы, будзе вельмі горача», — заявіў Лукашэнка.

Здавалася б, прычым тут наша сельская гаспадарка. З першага погляду, не пры чым. Але, па словах Лукашэнкі, гэтыя канфлікты могуць істотна падагрэць становішча ў іншых дзяржавах, у тым ліку Расіі, таму «мы вельмі актыўныя ў гэтым пытанні», пазіцыянуючы сябе ў рэчышчы расійскай палітыкі, «разам яе ажыццяўляем і катэгарычна супраць таго, каб супердзяржава, як вы сказалі, пад якімі бы тое ні было лозунгамі — дэмакратычнымі, і яшчэ нейкімі ўмешвалася ва ўнутраныя справы той ці іншай дзяржавы, каб зрынала, забівала, вешала прэзідэнтаў».

Так што ёсць справа нашага сяла да канфлікту ў Сірыі! Мы актыўныя ў гэтым пытанні, і каб ЗША не зрынала, забівала і не вешала прэзідэнтаў, не было б патрэбы «ажыццяўляць і быць катэгарычна супраць». Тады б мы, канешне б, звярнулі ўвагу на свой ураджай, а не на сірыйскае ўзбраенне.

Але не толькі Амерыка нам перашкаджае. 2 кастрычніка адкрылася чарговая сесія абодвух палат Нацыянальнага сходу: Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Спікер верхняй палаты, паэт і проста харошы чалавек Анатоль Рубінаў у сваёй прамове паскардзіўся на ўсіх адразу. «На жаль, прыняцце чарговых санкцый, рашэнняў і рэзалюцый з боку Еўрасаюза, падтрыманых ЗША, у чарговы раз прадэманстравала негатоўнасць ЕС пераходзіць да канструктыўных стасункаў з Беларуссю. Па-ранейшаму дзейнічаюць зняважальныя санкцыі ў дачыненні да нашай краіны, ды і дзеянні асобных расійскіх бізнэсмэнаў лішні раз дэманструюць, як няпроста нам адстойваць нашы эканамічныя інтарэсы», — заявіў Рубінаў.

То бок вінаватыя ўсе адразу: ЗША, ЕС і Расія. І, як і прэзідэнту, Рубінаву замінае і беларускі народ: паводле слоў Рубінава, усё беларускае грамадства павінна «не паддавацца бацылам панікі і няверу, якія спрабуюць пасеяць у грамадстве асобныя элементы, а толькі рухацца наперад».

Калі ў спадара Рубінава вінаватыя ўсе навокал, можа, яму б было больш камфортна не ў парламенце, а дзе-небудзь на незаселенай выспе? З другога боку, каму б тады Рубінаў скардзіўся на тое, што яму ўсе перашкаджаюць?

І яшчэ больш цікава: калі нам замінаюць з усіх бакоў, куды «наперад» плануе рухацца спадар Рубінаў? Хіба што ў бок Украіны, пакуль яна не падпісала пагадненне пра асацыяцыю з ЕС. Падпіша ў лістападзе — усё, кранты, будзем абкружаныя ворагамі з усіх бакоў.

І з чым рухацца, таксама пытанне. З 1 кастрычніка, як і планавалася, значна падаражэў праезд у грамадскім транспарце ў Мінску: з 2 000 да 2 500 рублёў. Але гэта не адзіны сюрпрыз. Аказваецца, таксама падаражэлі імпартныя цыгарэты (на 3,7–4,8%). Падаражэлі паслугі ЖКГ: тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння вырас на 2,9%. Кошты на звадкаваны прыродны газ у малалітражных балонах для насельніцтва павялічыліся на 4% — істотнае падвышэнне для тых, хто жыве ў негазіфікаванай вёсцы. Тарыфы на прыгарадныя аўтамабільныя перавозкі пасажыраў у Мінску таксама павышаныя з 1 кастрычніка на 30%.

Павысілася за 130 тысяч базавая велічыня. Падаражэлі звязаныя з ёй стаўкі арэнды, штрафы і іншыя плацяжы.

Можа, нам лепш рухацца не наперад, а назад? Можа, хоць нешта патаннее?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЯКСЕЙ ШЧАДРОЎ



Улады ўсё ж адумаліся і спынілі крымінальную справу супраць верніка Аляксея Шчадрова, які ў Аляксандраўцы Шчучынскага раёна стварыў прытулак для сацыяльна абяздоленых і нямоглых.

Увесну гэтага года Шчадрова абвінавацілі ў тым, што ён арганізаваў дзейнасць незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку. Крымінальная справа супраць верніка была распачатая па сумнавядомым артыкуле 193.1 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі).

Пастанова пра спыненне справы прынята яшчэ 11 верасня. Хрысціянскі вернік спадзяецца цяпер, што ніхто не будзе замінаць яму займацца дабрачыннай дзейнасцю, паколькі за апошнія месяцы яму з дапамогай розных праваабарончых арганізацый удалося зарэгістраваць прыватную сацыяльную ўстанову «Павер у сябе».

Крымінальная справа спыненая са спасылкай на п. 11 ч. 1 арт. 29 КПК — па распачатай справе вытворчасць падлягае спыненню пры наяўнасці падстаў для вызвалення ад крымінальнай адказнасці, прадугледжаных артыкуламі Асаблівай часткі Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Заўвага да 193-1 КК абвяшчае, што асоба, якая добраахвотна спыніла дзеянні, прадугледжаныя гэтым артыкулам, і заявіла пра гэта дзяржаўным органам, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці, калі ў яе дзеяннях не ўтрымліваецца складу іншага злачынства. Гэта значыць, рашэнне аб спыненні справы прынята з улікам рэгістрацыі ўстановы.

### ПАВАЛ ЛАТУШКА



Амбасадар Беларусі ў Францыі, і па сумяшчальніцтву ў Іспаніі і Партугаліі, прадстаўнік Беларусі ў ЮНЕСКА Павал Латушка зараз — ці не адзіны ў Беларусі чалавек, які атрымаў вымову «заднім чыслом».

Аляксандр Лукашэнка абвясціў вымову намесніку прэм'ер-міністра Анатолю Калініну і Паўлу Латушку за тое, што, нібыта, не прынялі належных мер па выкананні даручэнняў кіраўніка дзяржавы аб рэканструкцыі і рэстаўрацыі будынка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Гэта, як адзначаецца ў вымове, пацягнула за сабою павелічэнне тэрмінаў уводу аб'екта ў эксплуатацыю і парушэнні ў выкарыстанні бюджэтных сродкаў.

Калі б Латушка па-ранейшаму заставаўся міністрам культуры, то вымова была б слушная. А так... Ну які амбасадар адказны за Купалаўскі тэатр?

Камізму сітуацыі надае тое, што Латушка быў прызначаны паслом у Францыі 16 лістапада 2012 года. Нацыянальны ж акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адкрыўся пасля рэканструкцыі толькі 29 сакавіка 2013 года.

Рэканструкцыя вялася з 2010 года і, як меркавалася, павінна была вярнуць тэатру гістарычнае аблічча. У выніку аднаўленчых работ былі дэмантаваныя падлогі, усе апорныя і агараджальныя канструкцыі будынка, а таксама прыбудовы. Падмурак і сцены тэатра ўзмацнілі. Галоўная сцэна заглыблена на чатыры метры, але паменшылася колькасць месцаў у зале — з 500 да 360. З'явіліся тры абноўленыя рэпетыцыйныя залы, адна з якіх роўная асноўнай сцэне.

### УЛАДЗІМІР ЯРОМЕНАК



Збылога палітвязня, удзельніка «Плошчы–2010», маладафронтаўца Уладзіміра Яроменкі зняты прэвентыўны нагляд — такое рашэнне прыняў суд. Аднак актывіст застаецца пад прафілактычным наглядам. Пра гэта Уладзіміру Яроменку паведамілі ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі міліцыі Першамайскага раёна Мінска:

«Тэлефанаваў інспектар, прасіў зайсці ў інспекцыю, выдаў мне пастанову аб тым, што нагляд у дачыненні да мяне спынены, менавіта прэвентыўны нагляд. Я застаюся пад прафілактычным, які і быў у мяне пасля вызвалення з калоніі. То бок, у мяне няма абмежавання па часе знаходжання дома, я магу пакідаць межы горада, у якім я жыву, выязджаць за мяжу. Але калі я з'язджаю кудысьці даўжэй чым на месяц, то павінен папярэджваць інспектара», — паведаміў Яроменак.

Гэта той самы выпадак, калі правая рука не ведае, што робіць левая. Бо менавіта за парушэнне прэвентыўнага нагляду Яроменак у жніўні быў асуджаны на 3 месяцы арышту судом Першамайскага раёна. Актывіст абскардзіў прысуд і застаўся на волі, дата разгляду ягонай скаргі ў гарадскім судзе пакуль не прызначаная. Зараз нагляд знялі. Але што будзе ў такім выпадку з рашэннем пра ягоны арышт?

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ГЕАПАЛІТЫЧНЫ ВЫБАР: ТРАГЕДЫЯ РАСКОЛАТАГА ГРАМАДСТВА

Сяргей НІКАЛЮК

**Калі параўнаць з Украінай, дзе гэта праблема выбару — кіравацца на Усход ці на Захад — здабыла цяпер практычнае значэнне, для паўднёвай суседкі Беларусі яна ўскладняецца яшчэ і рэгіянальнай неаднастайнасцю.**




Паводле папулярнага ў часы майго камсамольскага юнацтва анекдоту, трагедыя — гэта калі ён хоча, яна хоча, але няма дзе. Прычына трагедыі, такім чынам, пераносілася са сферы чалавечых адносін на знешнія акалічнасці. А ў спісе неспрыяльных акалічнасцяў «кватэрнае пытанне» ў савецкага чалавека, як вядома, займала далёка не апошняе месца.

Але вызначэнні, што эфектыўна працавалі на побытавым узроўні, вельмі часта бываюць бескарысным пры разборы азбуковых паліталагічных ісцін. Таму звернемся па дапамогу да Гегеля, паводле якога трагедыя палягае не ў канфлікце правага і няправага, а ў канфлікце правага з правым.

На афіцыйным узроўні ў Беларусі наяўнасць падобнага кшталту канфліктаў не прызнаецца ўжо самім фактам існавання адзінага палітыка (АП). Ён таму і адзіны, што выяўляе адзіную цікавасць адзінага народа. Народ жа заўсёды не мае рацыю па вызначэнні.

Прывяду свежую цытату: *«Меня белорусский народ избрал не для того, чтобы я выполнял какие-то непонятные представительские функции, а для того, чтобы отстаивал его интересы, не нанося ущерб соседям, друзьям и братьям. Что я и делаю».*

Асабіста я сумняваюся, што мае інтарэсы супадаюць з інтарэсамі той часткі беларускага народа, якую падтрымлівае АП. Ён увесь час апелюе да «большасці», якая адпрэчыла ў 90-я гады еўрапейскі шлях развіцця Беларусі і сёння не шкадуе пра свой выбар. Але я да «большасці» з падобнай геапалітычнай арыентацыяй не належаў і не належу.

Дарэчы, «большасць» — гэта колькі? АП любіць нагадваць, што ў другім туры ў 1994 годзе за яго прагаласавалі 82% выбарцаў. Усё правільна, калі лічыць ад колькасці тых, хто прагаласавалі (а ЦВК так і лічыць). З улікам жа якіх у той лёсавызначальны год яго падтрымала 56% ад спісакавага складу выбарцаў! Гэта і ёсць беларуская «большасць».

Тут неабходна зрабіць рэмарку. Ні палітолагі, ні сацыёлагі, у адрозненне ад аўтарытарных палітыкаў, паняццем «народ» не карыстаюцца. «Народ — гэта чалавек натоўпу, — адзначае культуролаг Андрэй Пеліпенка, — г. зн. гэта тое, што трэба з сябе выдушыць, каб стаць асобай. Жывучы сённяшнім днём, народ прынцыпова не здольны адэкватна асэнсаваць мінулае і панічна баіцца гістарычна канкрэтнай будучыні. Крыніцай, што накіроўвае паводзіны народа, выступае не інтэлект, а псіхічнае поле чалавечай масы».

## «Хутчэй негатыўна» vs. «хутчэй пазітыўна»

Разгледзім канфлікт правых з правымі на прыкладзе нашай паўднёвай суседкі.

18 верасня ўрад Украіны ўхваліла праект дамовы пра асацыяцыю з ЕС. Кіеў спадзяецца, што канчатковую кропку ў шматгадовай дыскусіі з нагоды геапалітычнага выбару ён здолее паставіць падчас саміту Усходняга партнёрства 28–29 лістапада ў Вільнюсе. Адзначым, што ў асяроддзі палітычнай эліты наконт гэтага пытання практычна няма рознагалоссяў. З парламенцкіх партый супраць дамовы выступаюць толькі камуністы.

Аднак у грамадстве адзінства не назіраецца. Паводле красавіцкага апытання Цэнтра Разумкова, адчуваюць сябе еўрапейцамі (безумоўна адчуваюць/ хутчэй адчуваюць) 34% жыхароў Украіны, у той жа час такімі сябе не адчуваюць (хутчэй не адчуваюць/ безумоўна не адчуваюць) — 55%.

**ТАБЛІЦА 1.** СТАЎЛЕННЕ РЭГІЯНАЛЬНЫХ ГРУП ДА ЎСТУПЛЕННЯ Ў МЫТНЫ САЮЗ, %

| Варыянт адказу | Захад | Цэнтр | Поўдзень | Усход |
|---|---|---|---|---|
| Хутчэй негатыўна | 54 | 26 | 17 | 10 |
| Цяжка сказаць | 33 | 36 | 24 | 22 |
| Хутчэй пазітыўна | 12 | 38 | 59 | 68 |

**ТАБЛІЦА 2.** СТАЎЛЕННЕ РЭГІЯНАЛЬНЫХ ГРУП ДА ЎСТУПЛЕННЯ Ў ЕЎРАПЕЙСКІ САЮЗ, %

| Варыянт адказу | Захад | Цэнтр | Поўдзень | Усход |
|---|---|---|---|---|
| Хутчэй негатыўна | 7 | 20 | 36 | 48 |
| Цяжка сказаць | 25 | 34 | 26 | 35 |
| Хутчэй пазітыўна | 67 | 46 | 38 | 18 |

Праблема геапалітычнага выбару ўскладняецца рэгіянальнай неаднастайнасцю краіны. Грамадства ў дадзеным пытанні не выступае як цэлае. Паміж яго складовымі часткамі, асабліва паміж Усходам і Захадам, існуюць глыбокія сацыякультурныя адрозненні.

Калі ў цэлым па краіне 45% з'яўляюцца прыхільнікамі ўступлення ў Мытны саюз Расіі, Беларусі і Казахстана, а 42% хоча інтэгравацца ў Еўрапейскі саюз, то ў рэгіянальным разрэзе думкі апытаных на гэты конт размяркоўваюцца не так раўнамерна: 67% на Захадзе краіны за інтэграцыю з ЕС, а 68% на Усходзе за ўваходжанне ў Мытны саюз (табл. 1–2).

Моладзь да 30 гадоў, натуральна, у большай ступені дэкларуе сваё жаданне ўступіць у ЕС, чым людзі старэйшага ўзросту — 49 і 34% адпаведна. У адказах на пытанне пра стаўленне да ўступлення ў Мытны саюз прасочваецца процілеглая тэндэнцыя: чым старэй узроставая група, тым больш у ёй прыхільнікаў Мытнага саюза.

Амаль траціна насельніцтва краіны не мае свайго меркавання па пытанні ўступлення ў той ці іншы міжнародны саюз. Прычым цяжкасці з адказамі ў аднолькавай ступені адчуваюць рэспандэнты практычна ва ўсіх узроставых групах.

Такім чынам, краіна, у якой існуюць сур'ёзныя праблемы рэгіянальнага адзінства, спрабуе зрабіць крок у кірунку інтэграцыі з політэтнічнай Еўропай, што так і не здолела знайсці ключ да рашэння праблемы мультыкультуралізму.

Тым часам вялікая частка ўкраінскага грамадства ідэнтыфікуе сябе з усходнеславянскімі каштоўнасцямі і культурнымі нормамі. У прыватнасці, на пытанне «Традыцыі, каштоўнасці і нормы якіх краін вам найбольш блізкія?» рэспандэнты адказалі наступным чынам: краін Заходняй Еўропы — 18%, усходнеславянскіх краін — 42%. І ў дадзеным выпадку колькасць тых, хто не змог адказаць, апынулася занадта высокай — 40%.

Меркаванне рэспандэнтаў істотна залежыць ад рэгіёна пражывання. Так, каштоўнасці заходнееўрапейскіх краін блізкія кожнаму трэцяму жыхару Заходняй Украіны (33%), у той час як на Усходзе краіны іх падзяляе толькі 7% насельніцтва. І наадварот, усходнеславянскія каштоўнасці блізкія 55% жыхароў усходняга рэгіёна.

Па меркаванні член-карэспандэнта НАН Украіны Мікалая Шульгі, складанасць сітуацыі — яшчэ і ў тым, што цяперашняя ўкраінская эліта не з'яўляецца аўтарытэтам у грамадстве, і яна не зможа выконваць ролю павадыра ў новую сацыяльную рэальнасць — з новымі каштоўнасцямі і новымі мадэлямі паўсядзённых паводзін.

## У пошуках інфармацыйнага зерня

Звесткі па геапалітычных перавагах украінцаў я запазычыў на сайце Інстытута сацыялогіі НАН Украіны. Апытанне было праведзена ў ліпені 2013 года. Знайсці падобнага кшталту інфармацыю ў сістэматызаваным выглядзе на сайце айчыннага Інстытута сацыялогіі я не здолеў. Нельга сказаць, каб мяне гэта здзівіла. Я, як гаварыцца, не першы год замужам і выдатна разумею, чаму ў «дзяржаве для народа» адсутнічае традыцыя падзяліцца з народам такой інфармацыяй. І не важна, што акадэмічны інстытут з'яўляецца бюджэтнай арганізацыяй, г. зн. яго працу аплачвае той самы народ, ад якога інфармацыя і хаваецца.

Тым не менш я скарыстаўся тэхналогіяй, апісанай у вядомай байцы, і здолеў адшукаць некалькі зернеяў карыснай інфармацыі. «Што да далучэння Беларусі да ЕС, — заявіў падчас анлайн-канферэнцыі дырэктар Інстытута сацыёлагі, прафесар Катляроў, — дык за гэта сёння выступаюць 31,7%, гэта значыць траціна насельніцтва згодная, каб Беларусь уступіла ў Еўрапейскі саюз». Пад «сёння», калі меркаваць па даце правядзення анлайн-канферэнцыі, маецца на ўвазе канец 2011 года.

Яшчэ адна цытата: «У наш час каля 40% насельніцтва краіны лічаць, што Беларусь і Расія павінны і далей развівацца ў рамках Саюзнай дзяржавы. Больш 50% насельніцтва лічыць, што Беларусі і Расіі варта развівацца па міжнародных дамовах, а Беларусь павінна быць больш незалежнай у прыняцці рашэнняў. І толькі 2% лічаць, што наша краіна павінна ўвайсці ў склад Расіі».

Калі звярнуцца да апытанняў НІСЭПД, дык у верасні 2011 года пры выбары паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у Еўрасаюз была зафіксавана нічыя: 41,5% vs. 42,0%. Наўпрост параўноўваць вынікі, агучаныя Катляровым, з дадзенымі НІСЭПД было б некарэктна. Параўнанні магчымыя толькі ў выпадку поўнага супадзення фармулёвак пытанняў і меркаваных адказаў. У дадзеным жа выпадку казаць пра такое супадзенне не даводзіцца.

Але і факт афіцыйнага прызнання ў тым, што «траціна насельніцтва згодная, каб Беларусь уступіла ў Еўрапейскі саюз», «дарагога варты» (улюбёны фразеалагізм АП, між іншым).

## Крошкі «нафтавага пірага»

На чыім баку праўда — на баку прыхільнікаў збліжэння з Расіяй ці на баку іх апанентаў? Ні на побытавым узроўні, ні на ўзроўні азбуковых паліталагічных ісцін адказу на гэта пытанне не існуе.

Сярод першых пераважалі, пераважаюць і будуць пераважаць так званыя бюджэтаатрымальнікі. Іх беларуская папуляцыя ад папуляцыі ўкраінскай прынцыпова нічым не адрозніваецца. Асобасныя рэсурсаў для ўдзельніцтва ў дынамічнае жыццё, заснаванае на рынкавых прынцыпах, бюджэтаатрымальнікі не валодаюць. Таму падтрымлівалі, падтрымліваюць і будуць падтрымліваць усходні інтэграцыйны праект, разлічваючы, не без падставы, на тое, што ім перападуць крошкі расійскага «нафтавага пірага».

Аснову другіх складаюць эканамічна актыўныя грамадзяне — галоўныя вытворцы ВУП, вытворцы дададзенага кошту. Яны ўмеюць працаваць і спадзяюцца, што пры адсутнасці апекі з боку «моцнай дзяржавы» змогуць рабіць гэта больш прадуктыўна.

Нагадаю, трагедыя — гэта канфлікт правага з правым. Наколькі яе маштаб усведамляе палітычная эліта ва Украіне, і якім чынам яна мае намер гэты канфлікт пераадолець, я не ведаю. Беларуская ж палітычная эліта не прызнае сам факт падзелу грамадства на дзве каштоўнасна супрацьлеглыя адна адной групы (на «большасць» і на «меншасць»).

Адсюль вера ў магчымасць падтрымання сацыяльнай стабільнасці выключна за кошт нарошчвання прыбыткаў насельніцтва. Аднак, у адрозненне ад бюджэтаатрымальнікаў, вытворцы дададзенага кошту маюць патрэбу не толькі ў матэрыяльных выгадах, але і ў палітычных правах.

Ва Украіне попыт на палітычныя правы прад'яўляецца адкрыта, у Расіі ён толькі пачынае фармавацца (прыгадаем 8 верасня). Дойдзе чарга і да Беларусі.

ДОСВЕД

# КРАІНА, У ЯКОЙ НЕ БЫЛО КРЫЗІСУ

Сяргей ПУЛЬША

**Польшча — адзіная краіна Еўрасаюза, у якой на працягу «крызісных гадоў» ВУП не падаў ніжэй плінтуса. І нават не апускаўся да нулявой пазнакі. ВУП заўсёды рос. Нават у самы крызісны 2009-ы яго рост склаў 1,6%. У гэтым годзе, на фоне паспяховых мінулых гадоў, рост чакаецца ў 1,5%, а ў наступным — больш за 2%.**



Славамір Майман

Беларускія чыноўнікі могуць паціраць рукі: маўляў, у нас ВУП таксама складае 1,5% за мінулы год, а ў гэтым запланавана 8,5%. Але паміж польскім ВУП і беларускім — жахлівая розніца. Палякі лічаць ВУП не ад колькасці створанай прадукцыі, а ад колькасці прададзенай. Бо ў нас жа як — забілі склады, а ВУП расце.

Палякам гэта наогул незразумела, бо пра тое, што ВУП лічыцца колькасцю прададзенай прадукцыі, яны кажуць так, нібыта гэта само сабой вядома.

Але не толькі ВУПам адзіным жывуць палякі. Сярод 10 «новых» краін ЕС, і ў параўнанні са «старымі» краінамі наогул, Польшча за 10 гадоў (ад 2004-га і ўлічваючы прагноз на 2014-ы) ВУП ніводнага разу не падаў у «чырвоную зону».

Краіна нават у часы эканамічнага крызісу, калі ні ў каго няма грошай, прыцягнула наўпраставых замежных інвестыцыяў больш за 230 мільярдаў долараў. Прычым, самі палякі кажуць: у прыцягненні інвестыцый крызіс ім нават дапамог.

## «Падушка бяспекі»

Дык чаму ж у Польшчы не было крызісу? На гэта ёсць тры прычыны, і усе тры — істотныя.

Найперш, гэта тычыцца структуры гаспадаркі ў Польшчы, патлумачыў беларускім журналістам кіраўнік аддзела ўсходніх краін дэпартаменту прасоўвання і двухбаковага супрацоўніцтва Міністэрства эканомікі Польшчы Аляксандр Мілота. У Польшчы на 38,5 мільёна насельніцтва зарэгістравана 4 мільёны малых і сярэдніх бізнэсоўцаў, прычым 3 мільёны з іх — гэта, па нашаму кажучы, «індывідуальныя прадпрымальнікі». Менавіта малы і сярэдні бізнэс — тая «падушка бяспекі», якая не ў апошнюю чаргу ўратавала Польшчу.

Малыя прадпрыемствы — вельмі гнуткія, яны могуць правесці «перабудову на хаду», адпаведна рэагуючы на эканамічныя выклікі. Менавіта яны выступілі своеасаблівым «амартызатарам» для крызісу.

Таму малы бізнэс вельмі ў пашане ў палякаў. Ён існаваў у той ці іншай ступені нават у часы камунізму. А калі камунізм пачаў паціху канаць, то ў 1988 годзе быў прыняты закон аб свабодзе прадпрымальніцкай дзейнасці. Прычым, гэта самы лепшы закон Рэспублікі Польшча — ён дзейнічае і дагэтуль. Свабода прадпрымальніцтва амаль неабмежаваная.

Ці існуе ў Беларусі хоць адзін закон, які б без зменаў дзейнічаў 15 гадоў? У нас нават канстытуцыю за гэты час адзін раз прынялі і адзін раз перапісалі.

Як паведаміў Мілота, Міністэрства гаспадаркі Польшчы, сярод іншага, і створанае для таго, каб спрыяць у развіцці малому бізнэсу.

Зразумела, важная і буйная гаспадарка Польшчы. Але яна не такая, як у нас.

Журналісты ўзгадалі, што ў свой час беларускім «флагманам», кшталту «Гарызонту» і МАЗу, прапаноўвалі збіраць тут тэлевізары і выпускаць машыны па тэхналогіі і пад брэндам сусветна вядомых марак: Sony, Samsung, MAN, Ford ды іншыя. Але савецкая сістэма мыслення ў Беларусі пераважыла: «Як жа так? Мы страцім сваё, айчыннае!». Ад гэтых праектаў адмовіліся, і дзе цяпер «нашае, айчыннае»? Прайграе па якасці і кошце замежнаму.

Польшча ж пайшла менавіта па такім шляху. Кіраўнік Польскага агенцтва інфармацыі і замежных інвестыцыяў Славамір Майман распавёў: «У мінулым годзе, падчас крызісу 61% польскага экспарту — гэта экспарт прадукцыі, якую выпускала Польшча пад вядомымі брэндамі. І ў нас у першай палове гэтага года, нягледзячы на крызіс на Захадзе, экспарт павялічыўся амаль на 6%».

«У нас шмат палітыкаў, левых, правых, кажуць: «Краіну распрадалі! Дзе польская вытворчасць, дзе польскія брэнды, польская прадукцыя?» Калі б мы напачатку 90-х гадоў не вырашылі адчыніць дзверы замежнаму капіталу, Польшчы на сённяшнім узроўні папросту б не было. Так, мы ганарыліся тым, што мы — дзясятая краіна ў свеце па прамысловасці. Па адным паказчыку — вытворчасці чыгуна і сталі. Былі цэлыя гарады, якія працавалі толькі на аднаго кліента — на Савецкі Саюз. Лодзь ад сярэдзіны XIX стагоддзя была цэнтрам тэкстыльнай прамысловасці для аднаго кліента — спачатку Расійскай імперыі, потым СССР. Яшчэ дзесяць гадоў таму там працы не было! І дзякуючы замежным інвестыцыям мы бяднейшы рэгіён ператварылі ў квітнеючы сад», — кажа Майман.

Зараз, як заўважылі ў агенцтве, у 2012 годзе амаль кожны другі тэлевізар альбо іншая бытавая тэхніка, прададзеная на тэрыторыі Еўрасаюза, была польскай вытворчасці.

З інвестарамі там носяцца, як з дурань з пісанай торбай — толькі прыходзьце, укладвайце грошы. Як прыйшоў інвестар — да яго адразу ж прыстаўляюць кансультанта. Ён дапамажа разабрацца з польскімі законамі, з польскай падатковай сістэмай, падкажа, што і як, і ледзьве не аблізвае гэтага інвестара.

Але самы дарагі тавар, які Польшчы ўдалося прадаць замежным інвестарам, — стабільнасць. Не славутая «беларуская стабільнасць» — «абы не было вайны». «Усе ўрады, якія ў нас былі: левыя, правыя, ліберальныя, сацыялістычныя, зялёныя, чырвоныя, блакітныя, у клетачку, — усе яны прытрымліваліся аднаго прынцыпу. Гэта прынцып ліберальнай эканамічнай палітыкі і адчыненых дзвярэй для замежных інвестыцый. Стабільнасць — гэта вельмі дэфіцытны зараз тавар ва ўсёй Еўропе. Эканамічная і палітычная стабільнасць. Такога тавару ў Еўропе няма, але ён ёсць у нас», — кажа спадар Майман.

Ну і ў дадатак, кажа Майман, у Польшчы самы нізкі ўзровень карупцыі ў рэгіёне, і ў краіне няма алігархаў. Польшча здолела пазбавіцца ад цеснай сувязі бізнэсу з карупцыяй.

## Беларусь убаку

Што ж тычыцца Беларусі, то заходняя суседка на дзяржаўным узроўні ставіцца да нас прагматычна-індыферэнтна. Тавараабарот з Беларуссю ў мінулым годзе склаў каля двух мільярдаў долараў. У гэтым годзе ён павялічыўся на 20%. Гэта неблагая дынаміка для Польшчы. Тым больш, што гэты тавараабарот — на карысць Польшчы. То бок, Беларусь экспартуе з Польшчы больш, чым імпартуе ў яе. І, хоць Беларусь і займае трэцяе месца ў краінах Усходняй Еўропы па экспарце, узнікла ўражанне, што палякі не вельмі і спяшаюцца на дзяржаўным узроўні актывізаваць «беларускі напрамак». Да таго ж, асноўны партнёр — краіны ЕС. Нават нягледзячы на крызіс у ЕС туды ідзе львіная доля польскага экспарту.

Не спрыяе актывізацыі эканамічных адносінаў і тое, што Беларусь ніяк не можа ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю. Польшча ж, як сябра СГА, павінна гуляць па правілах гэтай арганізацыі.

Тое ж самае з інвестыцыямі. У мінулым годзе палякі інвеставалі ў Беларусь толькі 14 мільёнаў долараў. Некаторыя лічаць, што гэта добрая сума, але на самай справе яна вельмі невялікая. У агенцтве інвестыцый кажуць, што Польшча пакуль больш імкнецца прыцягваць інвестыцыі, чым інвеставаць у іншыя краіны.

У прынцыпе, адмыслоўцы Агенцтва інфармацыі і замежных інвестыцый казалі, што Польшча пакуль у самым пачатку шляху інвеставання сваіх грошай кудынебудзь. Але ўсё роўна асноўны кірунак інвестыцый ідзе туды, дзе зацікаўленыя ў польскай прадукцыі. А паколькі, напрыклад, 25% польскага экспарту ідзе ў Германію, то і інвестыцыі з боку Польшчы ідуць у краіны ЕС.

Дый ніякае міністэрства не можа загадаць польскаму бізнэсоўцу, дзе і каму прадаваць тавары.

На дзіва абыякава ў міністэрстве гандлю ставяцца да беларусаў, якія прыязджаюць на «закупы» ў Польшчу. Груба кажучы, для іх «грошы не пахнуць». Не робіцца ніякіх падлікаў, колькі беларусы пакідаюць грошай у Польшчы. Ацэнкі міністэрства гаспадаркі на гэты конт вельмі прыблізныя і, як яны кажуць, ускосныя. Але, на думку адмыслоўцаў міністэрства гаспадаркі, гэтая лічба можа дасягаць 200 мільёнаў еўра на год.

А варта было б звярнуць на гэта асаблівую ўвагу. 200 мільёнаў еўра — гэта ў 14 разоў больш за польскія інвестыцыі ў Беларусь. І гэта — дзясятая доля афіцыйнага тавараабароту з заходняй суседкай. Такі «народны» тавараабарот усё ж — даволі значны калі не для Польшчы, дык для Беларусі.

Беларускія журналісты неяк былі здзіўлены такой малой увагай Польшчы да ўсходняй суседкі. Але калі Міністэрства гаспадаркі расчаравала, то далейшыя сустрэчы гэтае расчараванне звялі да нуля.

## Мы хочам даць вам тэхніку!

У міністэрстве навакольнага асяроддзя нам зладзілі сустрэчу з фірмамі, якія займаюцца «зялёнымі» тэхналогіямі. Там нават створаны спецыяльны праект «Greenevo», які падтрымлівае рознага кшталту экалагічныя тэхналогіі і распрацоўкі. У гэтым Польшча відавочна «прасякла фішку» — за экалагічнымі тэхналогіямі будучыня. І Польшча ў гэтай будучыні павінна заняць лідзіруючае месца.

Распрацоўкі самыя розныя, ад энергазберагальных печак да сонечных панэляў, ад «экалагічнай» цэглы да перапрацоўкі саломы ў біяпаліва. Усё гэта ўжо гатовае да продажу і выкарыстання.

Шмат польскіх фірмаў жадаюць супрацоўнічаць з Беларуссю. Гэтым цікавяцца прадпрымальнікі. Але ж узнікае тое ж самае беларускае «але». Палякі даўно зразумелі тое, да чаго мы яшчэ не дапетрываем: экалагічныя тэхналогіі дастаткова дорага каштуюць зараз, тым не менш, яны прыносяць неблагі прыбытак у будучыні. Лічыць будучы прыбытак няшмат якія беларусы навучыліся.

Калі я глядзеў на ўсю гэту прыгажосць, я згадаў наш найбуйнейшы свінакомплекс, які будуецца на Валожыншчыне. І тое, як нават жыхары дамагаліся паставіць там біягазавую ўстаноўку, а не звальваць свінячыя адкіды наўпрост у кар'еры. На што ўсім казалі: «Біягазавая ўстаноўка — справа дарагая, калі дзяржава дапаможа яе паставіць, то будзем ставіць, а так у нас грошай няма». Нягледзячы на тое, што з гэтай установкі комплекс мог бы сам сябе забяспечваць электрычнасцю, і яшчэ б на суседнія вёскі хапала б. І нягледзячы на тое, што акупаецца ўстаноўка ўсяго за два гады, а потым — чысты прыбытак. Не, гэта задорага зараз. І на гэтым кропка.

З беларускай псіхалогіяй — не думаць пра будучы прыбытак, а эканоміць альбо ўрваць грошы зараз — будзе вельмі цяжка змагацца.




ВУП Польшчы з 1992 па 2013 гады

ПРАБЛЕМА

# МОВА ЯК ПРЫКМЕТА АБРАНАСЦІ

Вольга ХВОІН

**Нацыянальнасць «беларус» паводле моўнай прыкметы не ёсць безумоўным складнікам. Звычайна гэта свядомы выбар бацькоў і праца ў выхаванні ці ўжо самастойныя высілкі дарослага чалавека. Гэты тэкст для тых, хто вагаецца ў жаданні выхаваць дзяцей з роднай, а не замежнай беларускай мовай.**

Для пачатку нагадаем, што беларуская мова — самастойная лінгвістычная сістэма. То бок не варта думаць, што дзіця, якое гаворыць па-руску, аўтаматычна будзе ведаць беларускую. Але, як гавораць бацькі дзяцей-білінгваў, беларуская мова даецца лёгка, відаць, сваё бярэ генетычная памяць. Беларуская мова адчыняе дзверы да разумення і паскоранага вывучэння моваў краін-суседак — украінскай і польскай. Вядомы і той факт, што білінгвы больш лёгка вывучаюць трэцюю мову ды іншыя знакавыя сістэмы. Натуральна, пры адпаведным жаданні і намаганнях.

З пункту псіхалогіі, білінгвізм — гэта здольнасць прымяняць у зносінах дзве моўныя сістэмы. Дзіця, не задумваючыся, пераходзіць з адной на другую, не блытаючы пры гэтым граматычныя шаблоны і фанетыку. Самы распаўсюджаны і ўжо класічны падыход быў сфармуляваны французскім лінгвістам М. Граммонтам. Яго галоўны прынцып гучыць так: «Адна мова — адзін носьбіт». Напрыклад, мама размаўляе з дзіцём толькі па-руску, а тата — па-беларуску. Мяркую, такі падыход можа быць нярэдкім у беларускіх умовах і кампрамісным. Бо добра беларускай мовай, асабліва ў гарадах, валодае сапраўды няшмат людзей. Дзякуючы такому размежаванню дзве мовы засвойваюцца адначасова, не змешваюцца паміж сабой. Хаця дарослыя часта бачаць менавіта блытаніны моваў, з'яўлення ў дзіцяці трасянкі.



Фота з сацыяльнай сеткі Фэйсбук

Сяргей Бахун з дачкой

Паводле падобнага прынцыпу выхоўваюць дзяўчынку Адэлю ў сям'і Сяргея Бахуна: беларуская — мова бацькі, руская — навакольнага свету. Сяргей Бахун гаворыць, што важна трымацца абранай лініі, а не кідацца ў бакі: карыстанне мовай, не раз на дзень, а ўвесь час, каб дзіця ведала, што адны і тыя ж рэчы называюцца па-рознаму. Яшчэ адна пужалка для бацькоў: дзеці-білінгвы позна пачынаюць гаварыць. Але на практыцы ўсё індывідуальна, і дзве мовы ад пачатку ніяк не гарантуюць позняга маўлення. «Дачка пачала рана гаварыць, праблем з гэтым не было. Мне здаецца, што яна разумела нас на дзвюх мовах ад самага пачатку. Трасянкі ў Адэлі ніколі не было, — распавядае Сяргей Бахун. — Канешне, у дзяўчынкі больш рускіх словаў у запасе, бо беларускамоўны толькі я. Мы аддалі яе ў беларускамоўны садок і спадзяёмся, што беларускай мовы стане больш. Галоўнае, у Адэлі няма непавагі да беларускай мовы, яна ведае, што гэта мова ёсць, і мова нармальная. Любіць глядзець мультфільмы па-беларуску, слухаць перад сном беларускую калыханку і песню «Купалінка». Калі ёсць нейкія беларускамоўныя імпрэзы для дзяцей, то імкнёмся іх наведваць».



Фота з архіва Спрынчан

Аксана Спрынчан з дачкой Альжбэтай у музеі ў Заслаўі

Іншы падыход выхавання білінгва прапануе прытрымлівацца прынцыпу: «Адна сітуацыя — адна мова». Напрыклад, дома з дзіцём гавораць па-беларуску, а на вуліцы ці ў краме — па-руску. Але з улікам таго, што беларуская мова дзяржаўная, і яе ў той ці іншай ступені разумеюць, варта карыстацца беларускай і ў публічных месцах, каб мова не ўспрымалася замкнёнай.

Бацькоў можа хваляваць і пытанне чысціні мовы. Найперш, канешне, варта сачыць за сваім маўленнем. Пісьменніца Аксана Спрынчан да мовы сваёй дачкі патрабавальная.

— Мы ад пачатку змагаемся за чысціню мовы. Калі чалавек прызвычаіўся гаварыць слова «да», то перавучыць на «так» будзе складана, — тлумачыць Аксана Спрынчан. — Наша дачка Альжбэта да трох год была пазбаўленая рускай мовы ўвогуле: тэлевізар мы не глядзім, кнігі ёй чыталі толькі па-беларуску. У дзіцячым садку мы спачатку запісалі яе ў беларускую групу, але многія дзеці там папросту не разумелі беларускай мовы. Атрымалася, што менавіта ў садку дачка і навучылася рускай. Дома ж мы працягвалі карыстацца беларускай. Калі ў Альжбэты былі нейкія памылкі, мы іх выпраўлялі. А хутка яна і сама пачала ўспрымаць гэтую розніцу, і нават выпраўляць, калі нешта няправільна ёй перакладалі, ці кніга была напісаная зрусіфікаванай мовай. У пяць год дачка навучылася чытаць, і з'явілася праблема: яна чытала на дзвюх мовах, і рускай, натуральна, пабольела. Але Альжбэта адчувае, што мы жывём беларускай мовай, і адмаўлялася нам спяваць рускія песенькі, якія вучылі ў садку. Цяпер яна нават стараецца перакладаць сходу, калі нешта чытае па-руску.

Альжбэта, як іншыя дзецібілінгвы, сама вызначае, якой мовай карыстацца, адпаведна сітуацыі і абставінаў.

— Большасць маіх сяброў размаўляюць па-беларуску, таму яна сярод дарослых фактычна не чуе рускай, з дзецьмі ж наадварот. Атрымліваецца, што з дарослымі, з намі, яна карыстаецца беларускай, а з дзецьмі пераходзіць на рускую. Але я бачу, што ёй хацелася б, каб было беларускае акружэнне, беларуская школа, каб наведвальнікі імпрэзаў, дзе мы бываем, гаварылі па-беларуску, — адзначае маці Альжбэты.

На жаль, грамадзянскі і гарантаваны законам выбар бацькоў не заўсёды даецца проста. Так, у Магілёве Ялінка Салаўёва фактычна ўжо чацвёрты год запар вучыцца ў беларускамоўным класе адна. Бацька дзяўчынкі Зміцер Салаўёў у такіх акалічнасцях навучання не бачыць вялікай трагедыі, але гаворыць, што паводзіны беларусаў былі б цікавыя для даследчыкаў.



Фота з сацыяльнай сеткі Фэйсбук

Зміцер Салаўёў

— Да трох год дачка выхоўвалася цалкам па-беларуску, потым з дзецьмі ў двары яна пачала гаварыць па-руску, — распавядае пра досвед такога выхавання Зміцер Салаўёў. — Цяпер у школе з сябрамі яна гаворыць на перапынках па-руску. Ніколі не паўставала такога пытання, што мова ёй не патрэбная. Часам дачка гаварыла, што хацела б, каб з ёй у класе былі яшчэ дзеці. У Магілёве ёсць беларускамоўныя дзеці, асяродак. Але ёсць праблема: мы не сустракалі адмоўнага стаўлення да беларускай мовы, і разам з тым людзі не гатовыя аддаваць дзяцей вучыцца па-беларуску. Напэўна, гэтая сітуацыя вымагае вывучэння ў псіхолагаў.

Зміцер Салаўёў таксама сцвярджае, што дзеці не пераходзяць на трасянку і добра размяжоўваюць мовы. «Цяпер дачка пачала вучыць англійскую мову, і бачым, што навучанне ідзе паспяхова. Я мяркую, гэта ёсць пэўным вынікам білінгвізму. Калі бацькі баяцца ці не хочуць замарочвацца на стварэнні беларускамоўнага класу, хай гавораць дома па-беларуску. Упэўнены, калі дзеці вырастуць, яны скажуць «дзякуй», — падкрэслівае Зміцер.

Выхаванне дзяцей беларускамоўнымі не варта ўспрымаць як цяжкасць, свядомае выгнанне іх у моўнае, культурніцкае гета. Варта ставіцца да гэтага як да клубу абраных — дзеці лёгка, натуральным шляхам атрымаюць веды, якія, як вядома, за плячамі не насіць, а паслужаць на карысць не раз.

ЛІЧБЫ І ФАКТЫ

# МІНАДУКАЦЫІ РЭКАМЕНДУЕ

**Навучанне — неад'емны працэс засваення мовы. Для беларускай мовы ў большасці выпадкаў адводзіцца роля замежнай, асабліва калі не прыкладаць уласных намаганняў у пошуку беларускамоўных класаў.**

На беларускай мове ў Беларусі навучаюцца прыкладна 21,5% школьнікаў. Гэтыя лічбы агучыў старшыня грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай школы» (ТБШ) Алесь Лозка. Паводле яго слоў, колькасць беларускамоўных школ і класаў змяншаецца. Напрыклад, калі ў 1993–1994 навучальным годзе на беларускай мове навучаліся 76% першакласнікаў, то ў 2011-м — толькі 18,6%. «Штогод мы губляем больш за 100 беларускамоўных школ па ўсёй рэспубліцы, асабліва падае іх колькасць у вёсцы», — зазначыў Алесь Лозка. Вёска пачынае русіфікавацца, бо закрываюцца малакамплектныя беларускамоўныя школы, а дзяцей пераводзяць у больш буйныя, навучанне ў якіх вядзецца на рускай мове. У 2012 годзе ў Беларусі зачынілі 128 малакамплектных школ у сельскай мясцовасці. Пераважна яны былі беларускамоўнымі. Ніводнай цалкам беларускамоўнай школы няма ні ў абласных цэнтрах, ні ў іншых буйных гарадах краіны.

Ва ўстановах дашкольнай адукацыі беларуская мова ёсць мовай зносінаў у 11% дзяцей, беларуская і руская — у 3,8%.

Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч на пытанне журналістаў у лютым гэтага года пра колькасць беларускамоўных навучальных устаноў адказаў ухілiста. «Я не магу вам сказаць дакладна, на жаль. Колькасць школ з выкладаннем на беларускай мове скарачаецца. Невялікія сельскія школы, дзе 20–30 навучэнцаў, зачыняюцца. Таму, калі лічыць па колькасці школ, іх становіцца менш. Але адносна колькасці навучэнцаў — у гарадах яна стабілізавалася», — адзначыў чыноўнік.

У каментары карэспандэнту НЧ Марату Гаравому першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім адзначыла, што спроба бацькоў па рэалізацыі натуральнага канстытуцыйнага права кожнага дзіцяці на атрыманне дашкольнай адукацыі па-беларуску вельмі часта застаецца безвыніковай. Паводле яе слоў, гэта адбываецца з прычыны абыякавага стаўлення да праблемы і ваяўнічага непрафесіяналізму беларускага чыноўніцтва.

«Трэба сказаць, што ў сістэме адукацыі ёсць розныя людзі. Так, многія загадчыцы садкоў прыхільна ставяцца да жадання бацькоў аддаць сваіх дзетак у групы, дзе выхаванне і адукацыя вядуцца па-беларуску. Але кіраўнічкі садкоў не могуць забяспечыць выхаваўчы працэс на належным узроўні, бо нашы дашкольныя ўстановы адукацыі знаходзяцца ў вельмі бядотным стане — у кадравым і матэрыяльным плане», — канстатавала Алена Анісім. Гаворка ідзе пра недахоп выхавацеляў з добрым веданнем беларускай мовы, а таксама пра цякучку гэтых кадраў з-за мізэрнага заробку.

Разам з тым у дарадча-метадычным лісце, які Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь падрыхтавала яшчэ да 2012–2013 навучальнага года, гаворыцца, што ў дашкольных установах на падставе пажадання бацькоў «фарміруюць групы, якія арганізуюць адукацыйны працэс на беларускай мове. Пры адсутнасці дастатковай колькасці дзяцей для фарміравання асобнай групы ў дашкольнай установе павінны ствараецца ўмовы для атрымання дашкольнай адукацыі на беларускай мове». Справа за рашучасцю бацькоў.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 7 КАСТРЫЧНІКА, ПАНАДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Рамантычная камедыя «Два дні».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Клуб рэдактараў.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.25** Усё як мае быць!
**16.50** Бенефіс «Трыццаць гадоў лёгказасвойваемага гумару».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**23.50** Дзень спорту.
**00.00** Дэтэктыўны трылер «Крумкач» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** «Вячэрні Ургант».
**22.40** Вострасюжэтны фільм «Драпежнік-2».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.30** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Жлобін.
**20.25** Фільм «Скайлайн» (ЗША, 2010 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.50** «Эліксір маладосці».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Гімн РБ.
**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.05** «Тэлебарометр».
**09.06** Дэтэктыўны серыял «Жураў 2» (Расія). Фільм «Ружовы заяц». 1-я серыя.
**10.21** «Навіны надвор'я».
**10.57** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**11.50** «Тэлебарометр».
**11.51** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**12.13** Сацыяльная драма «Каліна чырвоная».
**14.17** Камедыя «Запавет» (Сербія-Францыя).
**16.42** «Беларуская часіна» (прамы эфір).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Жураў 2» (Расія). Фільм «Ружовы заяц». 1-я серыя.
**18.59** «Тэлебарометр».
**19.00** Псіхалагічная драма «Кат» (Расія). 1-я і 2-я серыі (з 4-х).
**20.49** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.24** «Тэлебарометр».
**21.25** 21.25 «КЕНО».
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 16-я, 17-я, 18-я серыі.
**23.07** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 15-я і 16-я серыі.
**00.04** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада). 60-я серыя.
**00.54** Гімн РБ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Калючая гісторыя». Навукова-папулярны фільм.
**08.30** «Госць». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Я.Сіпакова «Госць у сенажаць».
**09.00** «Шчасце берагчы». Дак. фільм.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя аднайменнага рамана Барыса Пастэрнака. 11-я серыя (заключная).
**10.20** «Дыя@блог». Пра мову.
**10.50** «Бура». Фільм-фэнтэзі паводле трагікамедыі Уільяма Шэкспіра.
**12.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэта Аляксандра Лягчылава.
**13.00** «Паспець да ночы». Фільм-партрэт кінарэжысёра Віталя Чацвярыкова.
**13.35** «Купала і Колас. Два яблыкі на адной галінцы». Дакументальны фільм.
**14.05** «Маем рэчы». Куфар.
**14.20** «Таямніца душы». Гісторыя і сучаснасць мястэчка Лучай.
**14.50** «Загадкі дзеда Кандрата». Дак. фільм пра творчасць Кандрата Крапівы.
**15.15** «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Мастацкі фільм.
**16.45** «Наперад у мінулае».
**17.15** «Узоры лёсу». Самабытныя народныя строі. Дакументальны фільм.
**17.35** «Приведем ко Творцу сотворенный Им Космос». Дакументальны фільм.
**18.05** «Калейдаскоп».
**18.15** «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан». Першая частка. 1-я і 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Саша-Сашачка». Мастацкі фільм.
**21.55** «Дыя@блог». Пра мову.
**22.25** «Герой нашага часу». Гістарычная драма паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 1-я серыя.
**23.10** «Паспець да ночы». Фільм-партрэт кінарэжысёра Віталя Чацвярыкова.
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэта Аляксандра Лягчылава.
**00.05** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыў. «Пчаляр».
**21.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Карпаў. Сезон другі».
**23.05** Сёння.
**23.30** Серыял «ППС».

### МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Гонкі без фінішу».
**10.50** Выніковая праграма «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.25, 02.55** Т/с «Клон».
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Т/с «Чырвоная капэла».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Д/ф «У свеце мінулага».
**23.25** Т/с «Чыста ангельскія забойства».
**01.15** М/ф «Афёра».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55, 12.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Дакументальная гадзіна: «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**09.50** Euromaxx.
**10.20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 2.
**10.55** «Час гонару», серыял: 54 серыя.
**11.40** ПраСвет.
**12.10** Зона «Свабоды».
**13.10** Дакументальная гадзіна: «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**14.05** Праект «Будучыня».
**14.35** «Да смерці трэба паспець», дэтэктыў.
**16.05** «Палітыканы», серыял: 6 серыя.
**16.55** «А калі б так здарылася?», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**17.35** Відзьмо-невідзьмо: выд. 38.
**18.00** Еўропа сёння).
**18.30** Назад у будучыню.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (парааднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Дэвайс.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Падстаноўка, Нью-Ёрк», постмадэрная драма, 2008 г., ЗША.
**00.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.05** Асабісты капітал.
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 8 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.00** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**11.00** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.30** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.45** Меладрама «Трыццацігадовыя».
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.55** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Выведніцы».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Фільм «Жыццё горшае за звычайнае».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10, 17.20** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00, 13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Жлобін.
**09.10** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**10.05** «Жыць будзеце».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**14.00** Фільм «Каханне: інструкцыя па ўжыванні» (Італія, 2011 г.).
**16.50** «Згодна з законам».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Светлагорск.
**20.25** Фільм «Фанфан-цюльпан» (1952 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Тэрыторыя памылак».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Гімн РБ.
**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.04** «Тэлебарометр».
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў 2». Фільм «Ружовы заяц». 2-я серыя, закл.
**10.22** «Тэлебарометр».
**10.23** «Пад грыфам «Вядомыя».
**11.00** «Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.57** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**12.09** Псіхалагічная драма «Кат» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**13.59** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 15-я і 16-я серыі.
**16.42** «Беларуская часіна» (прамы эфір).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Жураў 2».
**18.59** «Тэлебарометр».
**19.00** Псіхалагічная драма «Кат» (Расія). 3-я і 4-я, закл. серыі.
**20.49** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.24** «Тэлебарометр».
**21.25** 21.25 «КЕНО».
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.06** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 17-я і 18-я серыі.
**00.01** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**00.51** Гімн РБ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы». Іканапіс Беларусі. Новае жыццё ікон.
**08.40** «Карані». Музей у Скарышэва.
**09.05** «Скарбніца Магілёўшчыны». Гісторыя мястэчка Жылічы.
**09.35** «Герой нашага часу». Гістарычная драма. 1-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». Пра літаратуру.
**10.50** «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан». Першая частка. 1-я і 2-я серыі.
**13.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта Аляксандра Майзлера.
**13.30** «Рэчавы доказ». Палаш Ізмайлава.
**14.00** «Лабірынты». Зачараваныя замкі паннаў Горват.
**14.30** «Старажытнае слова. Лёс Міхаіла Баброўскага». Дакументальны фільм.
**15.00** «Маем рэчы». Сыраварня.
**15.15** «Саша-Сашачка». Мастацкі фільм.
**16.25** «Сцэна». Дак. фільм пра М.Кірычэнку.
**16.50** «Зубр». Дакументальны фільм.
**17.05** «Калейдаскоп».
**17.15** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Другая частка. 1-я - 3-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Полымя». Мастацкі фільм.
**23.15** «Дыя@блог». Пра літаратуру.
**23.40** «Герой нашага часу». Гістарычная драма. 2-я серыя.
**00.25** «Рэчавы доказ». Палаш Ізмайлава.
**00.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта Аляксандра Майзлера.
**01.20** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.05** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыў «Пчаляр».
**21.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Карпаў. Сезон другі».
**23.30** Серыял «ППС».

### МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Кантрабанда».
**10.45** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.25, 03.15** Т/с «Клон».
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Т/с «Чырвоная капэла».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Д/ф «У свеце мінулага».
**23.25** Т/с «Чыста ангельскія забойства».
**01.15** М/ф «Пасланец».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 12.00, 19.00, 00.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 13.35** Асабісты капітал.
**08.55, 14.00** Аб'ектыў.
**09.25, 14.25** Еўропа сёння.
**09.55, 14.55** Назад у будучыню.
**10.05** «Дом», серыял: 4 серыя.
**11.35** «Ляонаў з Мяховіц», дак. фільм, Расія.
**15.05** «Дом», серыял: 4 серыя.
**16.35** «Геркулес выпраўляецца ў свет», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.30** Без рэтушы: «Хрушчоўкі» – гісторыя вялікага падману», рэпартаж, Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25, 20.15** Сальда.
**19.30, 20.00** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (парааднік гледача).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дэкалог-89+», цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 6: «Кватарант».
**21.45** Спазнай свет: «Рэлігійныя турмы», дак. фільм, 2005 г., Канада.
**22.20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 2.
**00.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.55** Аб'ектыў.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 9 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10-15.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 1-я серыя.
**16.30** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**17.35** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05-15.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Беларуша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Выведніцы».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Містычны трылер «Омэн-2».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30,, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00-15.00** Прафілактыка.
**15.05** «Прошаная вячэра».
**16.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мазыр.
**20.25** Фільм «Выпадковы муж» (ЗША - Ірландыя, 2008 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажаліцца».
**00.25** «Дакументальны спецпраект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Гімн РБ.
**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.05** «Тэлебарометр».
**09.06** Тэхнічная прафілактыка.
**15.01** «Цудоўная сямёрка. Вяртанне. Кастынг».
**15.38** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 17-я і 18-я серыі.
**16.42** «Беларуская часіна» (прамы эфір).
**17.55** Меладраматычны серыял «Двайняты» (Расія). 1-я серыя (з 18-ці).
**18.54** «Тэлебарометр».
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.24** «Тэлебарометр».
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** «КЕНО».
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 22-я, 23-я, 24-я серыі.
**23.10** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 19-я і -20-я серыі.
**00.04** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада). 62-я серыя.
**00.54** Гімн РБ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Палескі пачастунак». Тушаная капуста.
**08.25** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Міхася Лынькова.
**08.50** «Неразгаданыя людзі». Дакументальны фільм аб трагічным лёсе Максіма Гарэцкага.
**09.15** «Музеум». Маляваныя дываны.
**09.35** «Герой нашага часу». Гістарычная драма паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 2-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». Пра прыгожае.
**10.45** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Другая частка. 1-я - 3-я серыі.
**14.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Аляксандры Зіміной.
**14.25** «Рэчавы доказ». Апрычнік і Шэкспір. Дакументальны фільм.
**14.55** «Маем рэчы». Ніжняя царква. Царкоўная архітэктура Беларусі.
**15.10** «Полымя». Мастацкі фільм.
**17.40** «Косава. Маленькі горад з вялікай гісторыяй». Дакументальны фільм.
**17.55** «Калейдаскоп».
**18.00** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: «Сабака Баскервіляў». 1-я - 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Чорная бяроза». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я часткі.
**23.05** «Дыя@блог». Пра прыгожае.
**23.30** «Герой нашага часу». Гістарычная драма. 3-я серыя.
**00.15** «Рэчавы доказ». Апрычнік і Шэкспір. Дакументальны фільм.
**00.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Аляксандры Зіміной.
**01.10** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40-15.10** Прафілактыка на канале.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыў «Пчаляр».
**21.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Карпаў. Сезон другі».
**23.05** Сёння.
**23.30** Серыял «ППС».

### МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Пяць хвілін страху».
**10.45** «Агульны інтарэс».
**11.15** Д/ф «У свеце мінулага».
**12.25, 02.30** Т/с «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**19.00** Т/с «Чырвоная капэла».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**23.25** Т/с «Камісар Навара».
**01.00** М/ф «Гонкі без фінішу».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.55** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 6 серыя.
**10.20** Спазнай свет: «Рэлігійныя турмы», дак. фільм, 2005 г., Канада.
**10.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.30** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дакументальны фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 2.
**12.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**14.00** Аб'ектыў.
**14.30** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.10** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 6 серыя.
**15.40** Спазнай свет: «Рэлігійныя турмы», дак. фільм, 2005 г., Канада.
**16.15** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дакументальны фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 2.
**16.45** «Ранча», серыял: 16 серыя.
**17.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**18.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 5 серыя.
**22.15** Два на два (тэледыскусія).
**22.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 38.
**23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.05** Аб'ектыў.
**01.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 10 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія). Закл. серыя.
**10.05** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 2-я серыя.
**11.05** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.30** Каробка перадач.
**17.10** Таямніцы следства.
**17.40** Серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія). Заключная серыя.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Беларуша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Выведніцы».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Вострасюжэтны фільм «Марскі пяхотнік-2».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мазыр.
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мазыр.
**14.00** Фільм «Выпадковы муж» (ЗША - Ірландыя, 2008 г.).
**15.45** «Чыстая праца».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Калінкавічы.
**20.30** Фільм «Нават не думай» (Расія, 2003 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Дакументальны спецпраект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Гімн РБ.
**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.04** «Тэлебарометр».
**09.05** Серыял «Двайняты». 2-я серыя.
**10.20** «Тэлебарометр».
**10.21** «Вышэй за дах».
**10.58** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.04** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**12.18** Псіхалагічная драма «Кат» (Расія). 3-я і 4-я, закл. серыі.
**14.04** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 22-я, 23-я, 24-я серыі.
**15.39** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 19-я і -20-я серыі.
**16.44** «Беларуская часіна».
**17.55** Серыял «Двайняты». 2-я серыя.
**18.54** «Тэлебарометр».
**18.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**20.35** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія). Выпуск №4.
**21.09** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.24** «Тэлебарометр».
**21.25** 21.25 «КЕНО».
**21.31** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). 25-я, 26-я, 27-я серыі.
**23.07** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы». 21-я і 22-я серыі.
**00.04** «Час футболу».
**00.48** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**01.38** Гімн РБ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Рэальны свет». Вочы - люстэрка душы.
**08.40** «Маем рэчы». Гарбата.
**08.55** «Тэлевёрсты». Тэатр ТВ.
**09.20** «Росчырк часу». Гравюры Цюндта.
**09.35** «Герой нашага часу». Гістарычная драма. 3-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». Пра вечнае.
**10.50** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: «Сабака Баскервіляў». 1-я і 2-я серыі.
**13.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта Аляксандра Прыходзькі.
**13.45** «Рэчавы доказ». Мы былі. Дак. фільм.
**14.20** «Востраў. Павел Лунгін».Сцэнарыст, рэжысёр Павел Лунгін.
**14.35** «Князь Астрожскі і яго рацы». Дак. фільм пра знакамітага асветніка.
**15.00** «Максім і Дар'я». Дак. фільм аб захапленні вершамі М.Багдановіча.
**15.15** «Чорная бяроза». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я часткі.
**17.40** «Музей Янкі Купалы». Дак. фільм.
**17.55** «Калейдаскоп».
**18.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: «Скарбы Агры». 1-я і 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Заціша». Мастацкі фільм.
**22.55** «Дыя@блог». Пра вечнае.
**23.25** «Герой нашага часу». Гістарычная драма. 4-я серыя.
**00.10** «Рэчавы доказ». Мы былі. Дак. фільм.
**00.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта Аляксандра Прыходзькі.
**01.05** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Выратавальнікі».
**09.05** «Медыцынскія таямніцы».
**09.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыў «Пчаляр».
**21.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Карпаў. Сезон другі».
**23.05** Сёння.
**23.30** Серыял «ППС».

### МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Падкідыш».
**11.15** «Сардэчна запрашаем».
**11.45** «Рэспубліка сёння».
**12.25, 02.30** Т/с «Клон».
**15.25** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**16.05** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** Д/ф «З нагоды. Дзяўчаты».
**19.10** М/ф «Белая мядзведзіца».
**20.50** «Любімыя акцёры».
**21.15** М/ф «Забытая мелодыя для флейты».
**23.40** М/ф «Пяць хвілін страху».
**01.20** «Прыгоды Македонскай».
**01.30** «Цыркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 11.50, 19.00, 22.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Праект «Будучыня».
**09.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.10** «Глыбокая вада–2», серыял: 5 серыя.
**10.55** Два на два (тэледыскусія).
**11.25** Відзьмо-невідзьмо: выд. 38.
**13.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.20** Праект «Будучыня».
**14.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**15.05** «Глыбокая вада–2», серыял: 5 серыя.
**15.55** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 38.
**16.50** «Ранча», серыял: 17 серыя.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Бландзінка», серыял: 10 серыя.
**22.10** «Зомбі. Цёмны бок імперыі», дак. фільм, 1999 г., Польшча–Германія.
**00.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.50** Аб'ектыў.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 13 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.20** Камедыя «Формула кахання» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.45** Каробка перадач.
**13.20** «Медычныя таямніцы».
**13.55** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Клуб рэдактараў.
**16.15** Адмысловы рэпартаж АТН.
**16.35** Прыгодніцкая камедыя «101 далмацін» (ЗША).
**18.20** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**19.20** Прэм'ера! Камедыя «Пра што маўчаць дзяўчыны» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.35** Урачыстае закрыццё Міжнароднага музычнага фэсту «Залаты шлягер-2013 у Магілёве».
**00.20** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная прапаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.25** «Залаты грамафон». Лепшае за 15 гадоў.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.45** Рамантычная камедыя «Маладыя».

### СТВ

**06.15** «Салдаты». Серыял.
**07.10** Фільм «Шлях Карліта» (ЗША, 1993 г.).
**09.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Добруш.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Безназоўная зорка» (СССР, 1978 г.). 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Гомель.
**17.00** «Аўтапанарама».
**17.30** «Рэпарцёрская гісторыі».
**18.00** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Гомельская вобласць.
**21.15** Фільм «Маці і дзіця» (ЗША - Іспанія, 2009 г.).
**23.45** Фільм «Наладчык» (Расія - Украіна, 2004 г.).

### 2 Беларусь

**07.19** Гімн РБ.
**07.27** «Тэлебарометр».
**07.31** Мультфільмы.
**08.08** Фільм-казка (СССР).
**09.20** «Пазакласная гадзіна».
**09.42** «Тэлебарометр».
**09.45** Лірычная камедыя «Будзьце маім мужам» (СССР).
**11.29** Меладрама «Касякі» (ЗША).
**13.15** Авантурная камедыя «Блеф» (Італія).
**15.07** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна). 19-я і 20-я серыі.
**16.30** «Тэлебарометр».
**16.33** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.05** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**19.29** «Суперлато».
**20.18** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.24** «Навіны надвор'я».
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Прэм'ера. Містычны трылер «Маскара» («Беларусьфільм»).
**23.10** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна). 19-я і 20-я серыі.
**00.16** «Спорт-кадр».
**00.58** Дзюдо. Кубак свету. Мужчыны.
**02.31** Гімн РБ.

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.40** «Маем рэчы». Космас Язэпа Драздовіча.
**08.55** «Вежы Навагрудка». Дак. фільм.
**09.05** «Снег падае і растае..» Фільм-партрэт рэжысёра Барыса Луцэнкі.
**09.50** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**10.45** «Адысея Гашкевіча». Дак. фільм.
**11.10** «Тканіна жыцця». Дак. фільм.
**11.25** «Дзень Еўфрасінні». Пра жыццё заступніцы і асветніцы зямлі беларускай.
**11.55** «Карані». Мастакі Смаленска.
**12.25** Серыял выхаднога дня. «Адвержаныя». 1-я - 4-я серыі.
**16.10** «Без права на дубль». «Фатальнае падабенства. Трагедыя Андрэя Растоцкага».
**16.55** «Культпрасвет».
**17.30** Дзіцячы фільм. «Пра дракона на балконе, пра рабят і самакат».
**18.35** Сусветнае кіно. «Хрыстафор Калумб. Заваяванне Амерыкі». Гістарычная прыгодніцкая драма.
**20.30** Калыханка.
**20.55** VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Салісты оперных тэатраў свету.
**22.10** «Культпрасвет».
**22.35** «Усё ў садзе». Спектакль.
**00.45** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.30** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Мёртвыя душы».
**15.05** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.45** «Вочная стаўка».
**17.40** «Ворагі народа». Аўтарскі праект.
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Баявік «Антыснайпер. Стрэл з мінулага».
**21.40** «Новыя рускія сенсацыі».
**22.40** «Ты не паверыш!».
**23.35** «Як на духу».
**00.25** «Прамень Святла».
**00.55** «Школа зласлоўя».

### МИР

**05.00** М/ф «Пецька ў космасе».
**06.05** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.20** «Аэрасвет».
**09.35** «Прыгоды Македонскай».
**09.50** «Са свету па нітцы».
**10.10, 01.00** М/ф «Сцяна».
**13.10** М/ф «Падкідыш».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45, 21.00** Т/с «Застава Жыліна».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.30** М/ф «Кактэбель».
**23.20** М/ф «Белая мядзведзіца».
**04.05** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**07.45** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 6 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 6 серыя.
**08.35** Без рэтушы: «Хрушчоўкі» – гісторыя вялікага падману», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**08.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.35** Рэпартэр.
**10.05** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 6 серыя.
**10.35** Еўропа сёння.
**11.05** Спазнай свет: «Рэлігійныя турмы», дак. фільм, 2005 г., Канада.
**11.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.00** «Бландзінка», серыял: 10 серыя.
**12.45** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Ulis».
**13.20** «Цябе зваць Жастын», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Люксембург.
**14.55** «Маё жыццё для Яго», дак. фільм, 2004 г., Польшча.
**15.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.20** Форум (ток-шоу).
**17.10** «Цудоўны дзень», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** «Час гонару», серыял: 55 серыя.
**19.45** Дакументальная гадзіна: «Крэпасць», дак. фільм, 2012 г., Чэхія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.55** Фільматэка майстроў: «Песня-прызнанне Бобі Лонгу», драма, 2004 г., ЗША.
**23.55** «Палітыканы», серыял: 7 серыя.
**00.40** Відзьмо-невідзьмо: выд. 39.
**01.05** Два на два (тэледыскусія).
**01.30** Вагон.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Кассир Всего ________

ПРАБЛЕМА

# КАРАЛЕВУ ПРЫВАТЫЗУЮЦЬ

Алег НОВІКАЎ

**На думку шматлікіх брытанцаў, прыватызацыя Каралеўскай пошты падрывае адзін з асноўных інстытутаў манархіі і брытанскай культуры.**



Пагроза для ўраду ў тым, што кааліцыя незадаволеных прыватызацыяй пашырылася за кошт саміх кансерватараў

Кажуць, што аднойчы прэм'еру Маргарэт Тэтчэр прынеслі на зацвярджэнне план прыватызацыі паштовай службы, якая, як вядома, у Вялікабрытаніі называецца Каралеўская пошта (Royal Mail). Аднак у заўзятай прыхільніцы вольнага рынку так і не хапіла духу падпісаць прапанаваны дакумент. «Я не магу прыватызаваць карону», — прызналася яна міністрам (знакам Royal Mail з'яўляецца выява брытанскай кароны). Палітык баялася, што з прыватызацыяй пошты знікне адзін з абавязковых элементаў брытанскай кансерватыўнай пастаралі (нагадаем, што Каралеўская пошта існуе з 1516 года).

Палітычныя нашчадкі Тэтчэр не маюць комплексаў на гэты конт. У 2011 годзе, пасля прыходу да ўлады кааліцыі кансерватараў і лібералаў, быў прыняты Акт аб паштовай службе. На той момант яна ўяўляла сабой так званую публічную акцыянерную кампанію — дзяржаўную кампанію, чые акцыі могуць прадавацца на біржы, аднак камерцыйная дзейнасць якой з улікам ролі службы для грамадства абмежаваная шматлікімі нормамі. Сутнасць прынятага Акту заключалася ў тым, каб дзяржава нарэшце прадала 90 працэнтаў акцый Royal Mail. Яшчэ дзесяць павінны былі атрымаць супрацоўнікі службы. Падставамі для рэформы была слабая эканамічная эфектыўнасць кампаніі плюс паспяховы вопыт Германіі і Аўстрыі, дзе сёння няма дзяржаўных паштовых аператараў.

У гэтым годзе ў кабінеце Дэвіда Кэмерана нарэшце вырашылі рэалізаваць план двухгадовай даўніны. Стала вядома, што ў верасні-кастрычніку пачнецца размяшчэнне акцый Royal Mail на біржы. На першым этапе ўрад плануе прадаць 40-працэнтны пакет акцый. Усяго, па разліках эканамістаў, за 90 працэнтаў акцый бюджэт можа атрымаць каля 2,5–3 мільярды фунтаў.

План ураду выклікаў пратэст паштальёнаў, хаця апошнім падчас прыватызацыі перападаў салідны бонус у выглядзе тых самых 10 працэнтаў акцый. Калі перавесці ў сухую арыфметыку, кожны супрацоўнік пошты па схеме ўраду атрымлівае пай коштам 2000 фунтаў, які будзе штогод прыносіць дывідэнды ў 100 фунтаў.

Аднак гэтая падачка не перакапала пралетарыят. Па словах прафбосаў, падчас абмеркавання ідэі прыватызацыі 96 працэнтаў супрацоўнікаў пошты выступілі супраць таго, каб «прадаваць свае душы». Персанал, як гавораць лідары прафсаюзаў, разумее, што аднаразовыя бонусы не адмяняюць сутнасці працэсу прыватызацыі. Відавочна, што новы ўладальнік перш за ўсё зоймецца рэструктурызацыяй кампаніі: праводзіць звальненні, паспрабуе скараціць аклады, увядзе больш кепскія ўмовы працы. Рэформа будзе тычыцца таксама і геаграфіі паштовых аддзяленняў. Паколькі прыбыткі пошты ў правінцыі невялікія, відавочна, што сельскія аддзяленні будуць зачыняцца.

Наўрад ці ў адміністрацыі Кэмерана перапужаліся фронды прафсаюзаў. У прынцыпе, пасля часоў Тэтчэр ідэя прыватызацыі нейкай публічнай службы ў Вялікабрытаніі не з'яўляецца шакуючай для грамадскасці. Як след, пік радыкальнага супраціву прыватызацыі даўно прайшоў. Аднак з прыватызацыяй пошты ў кансерватараў узніклі сур'ёзныя праблемы.

Справа нават не ў тым, што абывацель баіцца за тое, што паштовая дастаўка згубіць свой універсальны характар. Іншымі словамі, будзе парушаны славуты прынцып one-price-goes-anywhere, калі ліст дастаўляецца па ўсёй краіне па факту наяўнасці на канверце маркі. Быццам, новыя ўладальнікі Royal Mail могуць заламіць любую суму за перасылку. Словы міністраў торы пра тое, што інвестар будзе павінен падтрымліваць універсальны прынцып пошты, не выклікаюць даверу, паколькі, паводле згаданага вышэй Акту, у 2022 годзе ўрад збіраецца цалкам адмовіцца ад любога кантролю пошты.

Галоўная пагроза для ўраду заключаецца ў тым, што кааліцыя незадаволеных прыватызацыяй пашырылася за кошт саміх кансерватараў. Ім у галаву не прыходзіць, як камерцыйная кампанія можа называцца каралеўскай. Па логіцы, прыватызаваная будзе і каралева, якая выяўленая на асноўнай серыі марак. «Стоп прыватызацыі каралевы!» — гучыць лозунг кампаніі, якая аб'яднала абаронцаў брытанскага традыцыйнага ладу жыцця.

Галоўная рызыка для ўраду ў тым, што абурэнне сяз частки кансерватыўнага электарату можа мець доўгатэрміновы характар і захавацца аж да парламенцкіх выбараў 2015-га. Не так даўно Bow Group — старэйшы ў краіне экспертны цэнтр кансерватыўнага кшталту — апублікаваў свой даклад. Як лічаць эксперты, прыватызацыя пошты можа негатыўна адгукнуцца Кэмерану падчас выбараў.

«Дэпутаты торы на месцах сутыкнуліся з цяжкай дылемай — ім трэба прытрымлівацца партыйнай лініі, хаця тэма прыватызацыі пошты з'яўляецца вельмі непапулярнай сярод выбаршчыкаў», — кажа прадстаўнік Bow Group. Нават флагман кансерватыўнай прэсы «Daily Telerraph» асцярожна каментуе ідэю прыватызацыі пошты са спасылкай на вынікі апытання, якое правяло выданне. Прыкладна 77 працэнтаў брытанцаў, згодна даследаванню, выступаюць супраць прыватызацыі.

Роля пошты ў кансерватыўнай традыцыі Вялікабрытаніі выклікала цэлую палеміку на старонках правых выданняў. Прыхільнікі ўраду пішуць, што галоўная ідэя пошты — гэта не яе ўладальнік, а ідэя вернасці паштальёнаў свайму абавязку, канон якога быў сфармаваны ў Вікторыянскую эпоху. Таму любы ўладальнік пошты, быццам, застанецца верным каралеве.

Між тым, 27 верасня акцыі Каралеўскай пошты былі ўпершыню выстаўлены на продаж для прыватных асобаў. Мінімальны пай, які каштуе 750 фунтаў, можна набыць нават праз інтэрнэт. Біржавыя эксперты пішуць, што інвестыцыі ў пошту, можа, не і не вельмі прыбытковыя, аднак дастаткова бяспечная рэч. Паколькі дзяржаве патрэбна паштовая служба, урад пры любых сцэнарах проста не дапусціць банкрутства кампаніі. Прыватныя кампаніі атрымаюць магчымасць набываць акцыі Каралеўскай пошты ў сярэдзіне кастрычніка.

Біржавыя навіны сталі сігналам для актывізацыі апанентаў прыватызацыі. Прыкладна на 10 кастрычніка паштовыя прафсаюзы абвясцілі страйк, паабяцаўшы вывесці на вуліцы мінімум 100 тысячы чалавек. Праўда, першы бой прафсаюзы прайгралі. 2 кастрычніка стала вядома, што практычна ўсе са 150 тысяч супрацоўнікаў пагадзіліся стаць уладальнікамі тых самых акцый, выдзеленых для працоўнага калектыву. Напярэдадні прафцэнтры заклікалі паштальёнаў байкатаваць раздачу акцый.

Аднак развязка гісторыі з прыватызацыяй пошты далёка не ясная. Па-першае, не выключана, што іншыя прафсаюзы падтрымаюць акцыю паштальёнаў. Гэта ўжо пагражае нацыянальным страйкам, з якім ураду давядзецца лічыцца.

Па-другое шмат непаразуменняў выклікаюць заявы палітыкаў. Так, шатландскі прэм'ер Алекс Салманд паабяцаў у выпадку абвяшчэння незалежнасці краю нацыяналізаваць офісы Royal Mail на тэрыторыі будучай суверэннай Шатландыі. Тое ж паабяцаў зрабіць у выпадку перамогі лейбарыстаў на выбарах 2015 года іх лідар Эд Мілібэнд.

Цяжка сказаць, наколькі сур'ёзныя пагрозы нацыяналістаў і лейбарыстаў, аднак яны, відавочна, астудзяць пыл бізнэсоўцаў, якія жадаюць укласці грошы ў Каралеўскую пошту.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Характэрна, што гэтым разам (на вучэннях «Захад–2013») адпрацоўваецца не абарона ад знешняй агрэсіі рэгулярных войскаў суседніх краін, а неўласцівая ўзброеным сілам функцыя — барацьба з беларускімі незаконнымі ўзброенымі фармаваннямі ва ўмовах дэстабілізацыі знешняга і ўнутрыпалітычнага становішча. На першы погляд, такая легенда вучэнняў, напэўна, прымушае грамадзян РБ задавацца непрыемнымі пытаннямі: ці стане іх войска ваяваць супраць свайго народа?

**«МК» (Расія)**

Для беларускага прэзідэнта планы расійскай кампаніі вельмі небяспечныя — яны пагражаюць як яго асабістаму дабрабыту, так і палітычнай стабільнасці ў краіне, якая залежыць ад прыбыткаў кампаніі «Беларуськалій», што канкуруе з «Уралкаліем». У выпадку, калі расійскі вытворца, як і плануе, павялічыць вытворчасць калійных угнаенняў, кошты на сусветным рынку абрынуцца, а значыць, зменшацца і прыбыткі «Беларуськалія», з якіх на 45% складаецца прыбытковая частка бюджэту краіны. Лукашэнка не жадае гэтага дапусціць, але як лічаць аналітыкі, тое, што «Уралкалій» пацвердзіў свае планы на павелічэнне вытворчасці, сведчыць пра беспэрспектыўнасць сілавой тактыкі беларускага боку.

**«KremlNews» (Расія)**

Што да беларусаў з высокім узроўнем прыбыткаў, то ці наўрад 100-доларавы бар'ер пры выездзе прымусіць іх прыслухацца да папулярнага ў Беларусі лозунгу «Купляйце беларускае!». Беларускія тавары саступаюць імпартным аналагам пры супастаўленні кошту і якасці. У краіне не бывае распрадажаў — такіх, якія прынамсі двойчы ў год робяць у большасці краін свету.

**«RFI» (Францыя)**

Так званая выязная мыта для людзей можа існаваць толькі ў форме выязных віз, якія былі ў СССР і якія нядаўна адмянілі на Кубе. Вяртанне гэтага інстытута, хай і ў больш мяккім, грашовым варыянце, азначае вяртанне «жалезнай заслоны» і, вядома, нават у недэмакратычнай Беларусі здаецца абсалютнай дзікасцю. Тым не менш з улікам складанага фінансавага становішча ў Беларусі аналітыкі дапускаюць, што спадар Лукашэнка будзе выкарыстоўваць любую магчымасць, каб утрымаць і папоўніць валютныя запасы за кошт шараговых грамадзян. Праз два гады пасля амаль трохразовай дэвальвацыі Беларусь зноў на парозе валютнага крызісу пры перманентным эканамічным.

**Kursiv.kz (Казахстан)**

Ніякіх поспехаў ад уласных баявых дзеянняў, якія выліліся ў калійную вайну, Беларусь не дасягнула. Таму Мінску варта было б спыніць надзімаць шчокі і інтрыгаваць, выкрываючы ў жульніцтве нядаўніх кампаньёнаў па калійным бізнэсе, а больш думаць пра тое, як разумна дзейнічаць у тых умовах, што склаліся на сусветным рынку, калі здабыча калію будзе прыносіць усё меншы прыбытак.

**Deutsche Welle (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. «ЦЮРКАБАЧАННЕ» ЗАМЕСТ «ЕЎРАБАЧАННЯ»

Турцыя заявіла не толькі пра сваю адмову ўдзельнічаць у конкурсе «Еўрабачанне», аднак і пра стварэнне альтэрнатывы гэтаму вядомаму еўрапейскаму шоў. Турэцкая вяшчальная кампанія TRT абвясціла пра дэталі арганізацыі новага музычнага праект «Turkvision» («Цюркабачанне»), у якім будуць удзельнічаць выканаўцы з 20 краін і аўтаномных рэгіёнаў розных краін, дзе жывуць цюркамоўныя народы. Адпаведныя запрашэнні дасланыя ў Татарстан, Боснію, Казахстан і г.д. Той факт, што сярод ініцыятараў праекту «Turkvision» присутнічае Мінадукацыі Турцыі, сведчыць пра тое, што без палітыкі не абышлося. Як вядома, Турцыя, дзе пры ўладзе памяркоўныя ісламісты, усё больш скептычна глядзіць на еўрапейскую перспектыву краіны і намагаецца разглядаць сябе самастойным рэгіянальным лідарам, у тым ліку для цюркскіх нацый. Як і трэба было чакаць, ідэю «Turkvision» на ўра ўжо падтрымалі ў Азербайджане, які традыцыйна падтрымлівае Анкару. Праўда, Баку таксама мае намер браць удзел у конкурсе «Еўрабачанне». Вырашыў даслаць на конкурс свайго прадстаўніка і Казахстан. Іншыя краіны пакуль думаюць. Між тым, ужо вядома, што паўфінал і фінал новага конкурсу пройдуць у снежні.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. ДАЧКА КАРЫМАВА КРЫТЫКУЕ БАЦЬКУ



На некаторы час фронтмэнам узбекскай апазіцыі стала дачка прэзідэнта Карымава, якая працуе ў Парыжы. 35-гадовая Лола дала інтэрв'ю ўзбекскай секцыі радыёстанцыі BBC (гэта, дарэчы, ужо сам па сабе вельмі мужны крок). У сваім інтэрв'ю жанчына раскрыцікавала сваю старэйшую сястру Гульнару, якую лічаць галоўным кандыдатам у пераемнікі гаранта. Па словах Лолы, яна не падтрымлівае кантакты з сястрой і бацькам ужо каля 12 гадоў. У тым ліку з-за курсу, які праводзіць Узбекістан пад кіраўніцтвам Карымава. Паводле слоў Лолы, аўтарытарны стыль яе бацькі спрыяе росту ў краіне радыкальнага ісламізму як следства пераследу ўзбекскай дэмакратычнай апазіцыі. Напрыканцы інтэрв'ю Лола выказала надзею на тое, што яе старэйшая сястра ніколі не стане прэзідэнтам Узбекістана. Яна таксама заклікала французскую прэсу не называць яе дачкой дыктатара, паколькі мае абсалютна іншы пункт гледжання на сітуацыю на сваёй радзіме, чым яе бацька.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. У ЧАКАННІ НАЗВЫ «РУСЬ» ЦІ АДНАПОЛЫХ ШЛЮБАЎ?

Украінскія нацыяналісты прыдумалі, як супакоіць Маскву, якая цяпер намагаецца рознымі сродкамі сарваць падпісанне Украінай пагаднення аб Асацыяцыі з ЕС. На думку публіцыста «Украінскай праўды», адзіны выхад у такой сітуацыі — шантажаваць Пуціна тым, што Кіеў збіраецца падарваць рускую манаполію на гісторыю старажытнай Русі. Непасрэдна прапануецца на афіцыйным узроўні аспрэчыць права рускіх называцца рускімі, паколькі гістарычны цэнтр Русі, як вядома, быў на тэрыторыі цяперашняй Украіны. Хаця гісторыкі шмат кажуць пра гэты факт, афіцыйны Кіеў ніколі не аспрэчваў назву суседняй дзяржавы. Аднак цяпер, на думку грамадскасці, прыйшоў час нанесці ўдар у нерв расійскай нацыянальнай свядомасці. Застацца дадаць, што аматары жартаў лічаць, нібы існуе іншы варыянт астудзіць Крэмль — высунуць у якасці ўмовы для ўваходу Украіны ў склад Мытнага саюзу легалізацыю аднаполых шлюбаў у Расіі. З улікам хвалі гомафобіі ў Расіі, адміністрацыя Пуціна стоадсоткава не выканае гэту ўмову і будзе вымушана пакінуць Украіну ў спакоі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. ПЕРАВОД СТРЭЛАК ЯК РЭЦЭПТ АД КРЫЗІСУ

Іспанскі парламент разглядае прапанову аб адмене пастановы генерала Франка ад 1942 года наконт таго, у якім з часавых паясоў павінна знаходзіцца Іспанія. Той пастановай Франка ў імя салідарнасці з саюзнікам Гілерам патрабаваў, каб іспанцы жылі па сярэднееўрапейскім часе, як і іх тагачасныя нямецкія партнёры. Гэта быў вельмі сімвалічны крок, паколькі раней Іспанія знаходзілася ў тым жа часавым поясе, што і Вялікабрытанія, з якой Германія на той час змагалася. Хаця пасля вайны каўдыльё запісаўся ў саюзнікі блоку NATO, адным са стваральнікаў якога быў Чэрчыль, вяртання да даваенных стандартаў часу так і не адбылося. Аднак цяпер дэпутаты вырашылі вярнуць былыя нормы. Па іх словах, адкручванне гадзінніку на час назад дазволіць іспанцам мець лепшы тонус падчас працоўная дня. А гэта значыць, больш высокую эфектыўнасць працы, ад чаго наўпрост залежыць, як хутка краіна выйдзе з крызіснага стану.

**Паводле брытанскай прэсы**

ЦІКАВА

# АПОШНІ З ЧЫРВАНАСКУРЫХ

**Алег НОВІКАЎ**

**Новы віток барацьбы за палітычную карэктнасць распачаўся ў ЗША. Прагрэсіўнае грамадства патрабуе перайменаваць «Washington Redskins» за тое, што гэта назва, быццам, мае расісцкі падтэкст.**

Самае смешнае, што тэрмін «чырванаскурыя», або па-англійску «Redskins», не мае нічога агульнага з натуральным колерам скуры індзейцаў. Самі індзейцы звязваюць этымалогію слова са скальпамі, якія з-за крыві выглядаюць чырвонымі. Ёсць версія, што абарыгены самі пачалі называць сябе чырванаскурымі, каб адрозніваццa ад больш белых каланістаў і іх чорных рабоў.

Паколькі індзейцы ў ЗША належалі да адной з самых маргінальных сацыяльных груп, гэта слова хутка таксама стала сінонімам слова «брудны», «лянівы» і г.д.

Калі ў 1960-х гадах у ЗША актывізаваўся грамадзянскі рух за правы меншасцяў, было ўзнята пытанне і агідных мянушак на іх адрас. Так, афраамерыканцы апалчыліся на слова «негр». У сваю чаргу, індзейцы патрабавалі, каб ужыванне слова «чырванаскуры» разглядалася таксама як праява дыскрымінацыі. «Няшмат слоў здольныя параніць так сур'ёзна, нягледзячы на час. Адно з гэтых слоў — «чырванаскурыя». Калі вас уджаліла гэта слова, вам ніколі не пазбавіцца яго яду. Пасля гэтага вы назаўсёды «брудны», «лянівы» і «тупы», — пісаў у той час адзін з індзейскіх актывістаў.

Яшчэ ў 1968 годзе Нацыянальны кангрэс амерыканскіх індзейцаў пачаў кампанію супраць моўных стэрэатыпаў. У 1972 годзе ім удалося дабіцца першай перамогі. Суд прызнаў расісцкім сімвал клубу «Cleveland Indians» (сімвалам была выява індзейскага правадыра). У 1988 годзе Вярхоўны суд штату Мічыган пастанавіў забараніць у штаце ўсе назвы, якія выклікаюць негатыўную асацыяцыю з карэннымі народамі Амерыкі. З 1990-х гадоў такога кшталту прававыя акты сталі прымацца вельмі часта.

Слова «чырванаскуры» даўно актыўна выкарыстоўвалі ў бізнэсе. Было створана і запатэнтавана шмат гандлёвых марак з такой назвай. У 1992 годзе асацыяцыя індзейцаў ЗША звярнулася ва Упраўленне па патэнтах і гандлёвых марках ЗША, патрабуючы забараніць выкарыстоўваць слова «чырванаскуры» ў назвах фірмаў, спартыўных каманд, гандлёвых знаках, паколькі выключным правам выкарыстання дадзенага тэрміна павінны валодаць самі індзейцы. Але зварот быў адхілены з-за таго, што тэрмін «чырванаскуры» не можа быць юрыдычна сфармуляваны.




Акрамя таго, у ЗША шмат спартовых каманд маюць назву «чарнаскурыя». Часам актывістам удаецца папросту дамовіцца з уладальнікамі клубу. Іншым разам дабіцца змены назвы ўдаецца праз суд. Нарэшце, можна цісsucc на клубы праз спартовыя асацыяцыі. Напрыклад, у 2005 годзе Нацыянальная асацыяцыя студэнцкага спорту (NCAA) забараніла камандам, назвы якіх утрымліваюць абразлівыя мянушкі, праводзіць матчы ў сябе дома. Гэта мера выклікала хвалю адмоваў ад выкарыстання назвы «чырванаскурыя».

Тым не менш, сёння ў 62 універсітэтах дасюль гуляюць каманды з назвай «Redskins». Аднак самы вядомы бастыён аматараў моўнай дыскрымінацыі індзейцаў, на іх думку, знаходзіцца ў сталіцы, якую ў Нацыянальнай футбольнай лізе (NFL) прадстаўляе клуб «Washington Redskins».

«Washington Redskins», безумоўна, больш чым проста клуб. Гэта легенда. На рахунку клуба шмат трафеяў, у тым ліку тры Супербоўла (самы галоўны прыз у клубным амерыканскім футболе). Акрамя таго, «Washington Redskins» — гэта франчыза. Будучы другім па папулярнасці футбольным клубам у краіне, ён прыносіць уладальнікам за кошт продажу рознага кшталту прадукцыі і сувеніраў недзе 1,5 мільярда долараў штогод.

Тое, што такі славуты спартовы клуб нахабна носіць ксенафобскую назву, не падабаецца не толькі індзейцам. Джордж Маршал, заснавальнік клубу, ніколі не хаваў сваіх расісцкіх поглядаў. Першае, што ён зрабіў пасля набыцця клубу, які быў перайменаваны ў «Washington Redskins», — звольніў трэнера індзейскага паходжання. З яго ж падачы ў 1933 годзе Федэрацыя забараніла афраамерыканцам гуляць у NFL. Больш таго, у 1959-м Маршал зрабіў дэвізам клубу «Fight for Dixi» («Змагайся за Дзіксі»). Дзіксі — папулярная назва паўднёвых штатаў, якія намагаліся захаваць рабаўладальніцкі лад.

Паколькі на двары на той час была кульмінацыя барацьбы афраамерыканцаў за свае правы, на такую выхадку адразу звярнулі ўвагу ў Белым Доме. Пасля асабістага званку прэзідэнта Джона Кенэдзі ад гэтага слогана клуб адмовіўся. Праўда, Маршал не супакойваўся да канца жыцця. Паміраючы ў 1969 годзе, ён паспеў зацвердзіць статут фонду клубу, які забараняў фінансаваць праекты, звязаныя з расавай інтэграцыяй.

З усяго гэтага зразумела, што назва «Washington Redskins» прагрэсіўнай грамадскасці вельмі коле вока. З пачатку 1990-х гадоў яны праз розныя судовыя інстанцыі беспаспяхова дабіваюцца змены назвы каманды. Аднак тое, што адбываецца зараз, падобна на рашаючы штурм.

Што толькі ні прыдумляюць праціўнікі назвы «чырванаскурыя», каб прымусіць Дэна Снайдэра (Dan Snyder), уладальніка клубу, даць згоду на змену назвы. Цяперашнюю назву ўжо асудзіў мэр гораду і нават дзясятак дэпутатаў Кангрэсу, якія ў спецыяльным звароце заклікалі Снайдэра да рэбрэндынгу. Шэраг вядучых амерыканскіх спартовых выданняў («Sports Illustrated», «USA Today», «Slate») пастанавілі не ўжываць слова «Washington Redskins» на сваіх старонках. Замест гэтага пішуць «Washington D.C.'s.». што можна перакласці як «Вашынгтонцы». Яшчэ далей пайшло левае выданне «The Washington City Paper», якое называе клуб «Redpigs» («Чырвоныя свінні»). Вядзецца індывідуальная кампанія са спартовымі каментатарамі, ад якіх патрабуюць падчас трансляцый падтрымаць ідэю перайменавання. Гэта не кажучы пра пікеты, петыцыі і г.д.

Аднак нягледзячы на шалёны ціск, Дэн Снайдэр застаецца ўпартым як скала. На днях ён адказаў усім праціўнікам «Чырванаскурых» адным лаканічным словам: «Ніколі!». Прэса лічыць, што уладальнік клубу не ідзе на саступкі з-за фінансавых рызыкаў. Адпаведна апошнім апытанням, 79 працэнтаў амерыканцаў не бачаць падстаў, каб клуб змяніў назву. У самім Вашынгтоне цяперашняя назва падабаецца 60 працэнтам жыхароў. Паколькі клуб існуе за кошт прададзеных білетаў, думка фанаў вельмі важная для Снайдэра. У дадатак на яго бок стала частка грамадства, якая не лічыць тэрмін «чырванаскурыя» ксенафобскім.

Газета «Richmond Times-Dispatch» цытуе аднаго з правадыроў індзейцаў са штату Вірджынія, які кажа: «Нас больш турбуе праблема дзіцячай адукацыі і жылля, падтрымкі старых людзей і выжыванне нашай культуры. І нас менш за ўсё цікавіць, як называецца нейкі клуб».

Хаця Дэн Снайдэр мае намер стаяць да канца, эксперты не бачаць будучага для «Washington Redskins». Аўтарытэтнае выданне «Forbes» лічыць, што калісьці Снайдэр прайграе адзін з судовых працэсаў супраць аматараў новай назвы. Федэральнае заканадаўства, якое забараняе праявы ксенафобіі, стаіць таксама на іх баку. Таму, на думку выдання, лепш перайменаваць клуб як мага хутчэй, не чакаючы, пакуль праціўнікі Снайдэра перацягнуць на свой бок усю грамадскасць.

КОНКУРС

# ВАЙНА З-ЗА МАЛЕНЬКІХ ПРЫГАЖУНЬ

Алег НОВІКАЎ

**Рашэнне Францыі забараніць правядзенне конкурсаў прыгажосці для дзяўчынак маладзей за 16 гадоў выклікала антыфранцузскую істэрыку па той бок акіяну.**



Рашэнне пра забарону дзіцячых конкурсаў прыгажосці ўступіла ў сілу ў Францыі пасля галасавання ў Сенаце яшчэ 18 верасня. Ідэя забароны была ініцыяваная прадстаўнікамі правых апазіцыйных партый, аднак вялікай крытыкі з боку левых праўрадавых партый не мела. Толькі адзін з 147 прысутных сенатараў прагаласаваў супраць законапраекту.

Спрэчкі ўзніклі хіба што вакол памераў пакарання. Ініцыятары выступалі за тое, каб даваць арганізатарам падобных конкурсаў два гады турмы плюс выпісваць штраф на 30 тысяч еўра. Міністэрства правоў жанчыны палічыла такую меру вельмі жорсткай. Аднак у выніку сенатары падтрымалі першую прапазіцыю.

Сутнасць закону — у тым, каб абараніць псіхіку дзяўчынак. Паводле аўтараў закону, конкурсы фармуюць у дзяўчынак нездаровае пачуццё гіперсэксуальнасці, якое кепска ўплывае на самаацэнку і жыццёвыя каштоўнасці. «Мы не дазволім, каб нашы дзяўчынкі ацэньвалі сябе сыходзячы выключна з таго, як яны выглядаюць у люстэрках. Мы не дапусцім, каб камерцыйны інтарэс стаяў вышэй за інтарэс грамадскі», — заявіла падчас слуханняў Шанталь Жуано, адна з галоўных лабістак рэформы.

Прыняты сенатам закон у французскай прэсе амаль не заўважылі. Затое па той бок Атлантыкі навіна пра рашэнне французаў выклікала шквал пратэстаў. На думку амерыканскай прэсы, забарона конкурсаў прыгажосці — не што іншае, як выразны антыамерыканскі акт. Логіка простая: паколькі тыя конкурсы з'яўляюцца часткай амерыканскай масавай культуры, іх забарона ў Францыі накіраваная на правакаванне антыамерыканскіх настрояў сярод простых французаў.

Дзіцячыя конкурсы прыгажосці — сапраўды, частка амерыканскага ладу жыцця. Яны нарадзіліся на дарагіх курортах у 1920-я гады як забаўка для дзяцей, якія там адпачывалі. Аднак сапраўдны прарыў адбыўся ў 1960-я гады, калі тэлестудыі пачалі праводзіць агульнанацыянальныя конкурсы дзіцячай прыгажосці. У першым турніры прынялі ўдзел 35 тысяч кандыдатак, а ўжо праз пяць гадоў іх колькасць вырасла да 200 тысяч.

Натуральна, з пачаткам сексуальнай рэвалюцыі ў гэтых конкурсаў з'явілася маса праціўнікаў у выглядзе феміністак. Яны лічаць, што ўдзельніцам навязваюць алгарытм паводзін жанчыны ў патрыярхальнай сям'і. Пазней у конкурсах сталі бачыць латэнтную прапаганду дзіцячай парнаграфіі. Пашырэнню такіх настрояў спрыяла трагедыя 6-гадовай Джон Бенет Рэмсі — пераможцы конкурсу дзіцячай прыгажосці. У 1996 годзе яе знайшлі забітай у бацькоўскім доме. Да гэтага часу забойца не знойдзены, аднак адна з самых папулярных версій — дзяўчынка стала ахвярай нейкага сэксуальнага вычварэнца, які захапляўся тымі конкурсамі міні-міс. Але трэба прызнаць, што нягледзячы на крытыку, да міні-міс у цэлым амерыканцы ставяцца нейтральна.

> Сярод французаў папулярна думка пра тое, што дазвол на ўдзел сваёй дачкі ў конкурсах міні-міс могуць даць выключна бацькі з кепскім густам. Маўляў, гэта прымітыўнае шоў

Аднак вернемся да скандалу вакол рашэння сенату Францыі. На думку амерыканскага часопіса «Newsweek», мы маем справу з падвойнымі стандартамі. Францыя — гэта краіна, якая заўсёды была ў захапленні ад сваіх маладых сэкс-сімвалаў. Брыджыт Бардо не было і 15 гадоў, калі яна пачала кар'еру кіназоркі. Брук Шылдс споўнілася толькі 12, калі французскі рэжысёр Луі Маль прапанаваў ёй ролю ў фільме «La Petite» (1978). Сафі Марсо і Ванэса Парадзі былі падлеткамі, калі да іх прыйшла сусветная слава. І што ўжо казаць пра тое, што якраз Францыя надала прытулак рэжысёру Раману Паланскі, якога ў ЗША дасюль намагаюцца засудзіць за сэкс з 13-гадовай. У святле гэтай інфармацыі зразумела, што французскі сенат прагаласаваў выключна на хвалі антыамерыканскіх настрояў».

У доказ свайго тэзісу выданне прыводзіць незвычайны аргумент. Калі верыць часопісу, маладыя французжанкі — удзельніцы конкурсаў, не могуць быць ахвярамі гіперсэксуальнасці, паколькі тыя конкурсы ў Францыі фактычна не праводзяцца. Сярод французаў папулярна думка пра тое, што дазвол на ўдзел сваёй дачкі ў конкурсах міні-міс могуць даць выключна бацькі з кепскім густам. Маўляў, усім відавочна, што гэта прымітыўнае шоў, імпартаванае з ЗША.

Адным словам, за рашэннем сенатараў стаіць палітыка. Антыамерыканскія забабоны заўсёды былі папулярныя як сярод простых людзей, так і эліты. У Францыі не забыліся яшчэ, як у часы прэзідэнцтва Буша-малодшага адмова Францыі атакаваць Ірак выклікала шмат антыфранцузскіх акцый. Дастаткова ўзгадаць, як у меню буфета Белага дома на амерыканскі манер пераклалі французскае слова «батон». Сёння сітуацыя чымсьці нагадвае былыя часы. Хаця прэзідэнт Франсуа Аланд падтрымаў ідэю Абамы наконт вайсковай інтэрвенцыі ў Сірыю, французская публіка яго думкі не падзяляе. Супраць вайны не толькі правая апазіцыя, аднак вялікая частка аднапартыйцаў Аланда, а тым ліку ў парламенцкай фракцыі Сацпартыі. Каб яшчэ раз давесці сваю апазіцыю, парламентары і прыдумалі забараніць тыя малапапулярныя конкурсы міні-міс. Вось такія сентэнцыі часопіса.

Падтрымаў калегаў з «Newsweek» і «New York Times Magazine», які, як орган лібералаў, вельмі цяжка падазраваць у амерыканскім нацыяналізме. Выданне, праўда, не бачыць тут асаблівай палітыкі. На думку часопіса, гаворка ідзе пра банальную праяву французскага шавінізму. «New York Times Magazine» іранізуе: «Дзякуючы новаму закону французскія жанчыны больш не будуць таўсцею-ць, а французскія дзецi будуць паводзіць сябе выключна добра. Ну і, натуральна, дзяўчынкам не пагражае гіперсэксуалізацыя». Калі сур'ёзна, то часопіс нагадвае, што конкурсы не такія папулярныя ў Францыі, як у ЗША, і, адпаведна, перад намі проста «педантычная дэманстрацыя переваг французскай культуры».

А вось «Los Angeles Times» лічыць, што французскія палітыкі проста робяць выгляд, што працуюць. «Чым займаецца ўрад Францыі? Няўжо няма іншых крыніц пагрозы на адрас дзяцей, чым конкурсы міні-міс? Больш карысна было б заняцца абмежаваннем рэкламы тытунёвых кампаній, якая заўсёды накіраваная на падлеткаў».

Пераклады артыкулаў амерыканскіх выданняў толькі-толькі з'явіліся ў Францыі, і, калі меркаваць па першых каментарах, яны справакуюць новую хвалю антыамерыканскіх забабонаў і плюс вялікі інтарэс да тых самых забароненых конкурсаў міні-міс.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАЦІАС ШТОЛЬЦ



Штольц — лідар аўстрыйскай ліберальнай партыі «Новая Аўстрыя» (NEOS), якая атрымала на парламенцкіх выбарах 4,8 працэнта, што дало ёй 9 дэпутацкіх мандатаў. Відавочны поспех NEOS цікавы з дзвюх прычынаў. Папершае, партыя была заснаваная толькі ў мінулым годзе і зрабіла на выбарах маленькую сенсацыю (хаця ў парламент таксама прайшла іншая новая партыя FRANK, за якой стаіць алігарх Цім Штронах). Поспех Штольца цікавы ў праекцыі на выніќі выбараў 22 верасня ў Бундэстаг, куды ўпершыню за час існавання ФРГ не трапілі лібералы з Партыі свабодных дэмакратаў (FDP). Цяпер FDP ламаюць галаву, у якім накірунку рухацца далей, а перамога лібералаў у суседняй і культурна вельмі блізкай немцам Аўстрыі можа даць нямецкім лібералам нейкія ідэйныя арыенціры. Калі меркаваць па кампаніі NEOS, яна рабіла стаўку на адкрытую дэмакратыю (частка кіраўніцтва абіраецца праз інтэрнэт усімі сябрамі), ідэю фінансавай аўтаноміі школ, зніжэнне падаткаў, рэформу пенсійнай сістэмы плюс празрыстасць фінансавання партыі. У выніку Штольцу ўдалося перацягнуць частку маладога сярэдняга класа. Застаецца сказаць, што сам Маціас Штольц нарадзіўся ў 1973 годзе і мае адукацыю палітолага. Да пачатку палітычнай кар'еры паспеў папрацаваць дарадчыкам дэпутата.

### ВІТАЛЬ КЛІЧКО



Лідара партыі «Украінскі альянс за дэмакратычныя рэформы» (УДАР) яшчэ ўчора разглядалі як галоўнага кандыдата ў «адзіныя» ад украінскай апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Прычым палітолагі лічылі, што шансы ў баксёра-палітыка пазмагацца з Віктарам Януковічам някепскія, з улікам таго, што ён мае роўны рэйтынг падтрымкі як на Захадзе, так і на Усходзе. Аднак нечаканая гэта цудоўная перспектыва рухнула нібы картачны дамок. Аказваецца, Клічко мае від на жыхарства ў ФРГ, у той жа час закон Украіны пра выбары прэзідэнта дазваляе балатавацца на гэтую пасаду выключна ўкраінцам, якія жылі на радзіме папярэднія дзесяць гадоў да старту прэзідэнцкіх выбараў. У прынцыпе, юрысты УДАРу могуць паспрабаваць неяк аспрэчыць гэты пункт закону, паколькі права на пражыванне — не значыць у чыстым выглядзе нашу прапіску. Аднак дасведчаныя эксперты кажуць, што выбарчая камісія, дзе сядзяць людзі Януковіча, праігнаруе такую аргументацыю і папросту не зарэгіструе Віталія, а падкантрольны ўладзе суд толькі праштампуе гэта рашэнне. Акрамя таго, палітык сам папаліўся, калі заявіў у нядаўнім інтэрв'ю ВВС, што стала жыве ў Германіі аж 13 гадоў. Гэта сітуацыя мяняе расклад ва ўкраінскай апазіцыі. Усе чакаюць новай серыі канфліктаў паміж апазіцыйнымі бонзамі, што, безумоўна, на руку выключна Партыі рэгіёнаў.

### ЯРАСЛАЎ КАЧЫНЬСКІ



Качыньскі — лідар польскай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS), якая аказалася ў цэнтры скандалу, звязанага з падрыхтоўкай кампаніі аб даверы Ханне Гранкевіч-Вальц, мэру Варшавы ад ліберальнай партыі «Грамадзянская Платформа» (PO). У рэкламнай прадукцыі да кампаніі PiS выкарыстала выяву літары «W», якая ў часы вайны была фрагментам сімволікі антыгітлераўскага супраціву і непасрэдна Варшаўскага паўстання. Зараз літара «W» прысутнічае ў галоўным лагатыпе апазіцыі «W — jak Warszawa». («W — як Варшава»). Тую «W» раней і так выкарыстоўваў хто заўгодна, што выклікала пратэсты ветэранаў. Не спадабалася ім і з'яўленне іхняга сімвалу на плакатах PiS. За гэты факт адразу ўхапілася каманда PO. Так, Дональд Туск, прэм'ер і лідар PO, палічыў ганебным выкарыстанне гістарычных сімвалаў у бягучым палітычным працэсе. У выніку дыскусія вакол неэтычнага ўжывання правымі палітыкамі літары «W» стала ледзь не галоўнай тэмай дэбатаў. Скандал набыў такі маштаб, што Качыньскаму давялося асабіста тлумачыць, адкуль узялася тая «W». Па словах палітыка, «W» на рэкламнай прадукцыі PiS не значыць Варшаўскае паўстанне, а ёсць проста знак Варшавы. Пакуль не зразумела, чым закончыцца гэта дзіўная дуэль з-за літары. Увогуле, варшаўскі бургамістр не карыстаецца вялікай падтрымкай (яе адстаўку падтрымліваюць 75 працэнтаў жыхароў гораду), аднак папулярнасць плебісцыту вельмі нізкая, і ў выпадку прыступу апатыі варшавян пані Гранкевіч-Вальц мае шанс і далей застацца кіраўніком варшаўскай мэрыі.

ГУТАРКА

# ЯЎГЕН ПЕТРАШЭВІЧ: «МУЗЫКА — МАЁ ЖЫЦЦЁ»

Сяргей ЧЫГРЫН

**З гродзенскім кампазітарам, паэтам, мастаком, кіраўніком ансамбля «Гарадзенскія дударыкі», выдатнікам адукацыі Яўгенам Петрашэвічам я пазнаёміўся ў 2009 годзе, калі збіраў матэрыялы пра кампазітара, дырыжора і хормайстра Антона Валынчыка.**



Яўген Петрашэвіч некалі шчыра сябраваў з Антонам Валынчыкам. Таму распавёў мне шмат цікавага.

Мяне заўсёды здзіўляла і здзіўляе да сённяшніх дзён апантанасць спадара Петрашэвіча жыццём, рухавасць, актыўнасць, цікавасць да жыцця, захапленне музыкай, мастацтвам, літаратурай. А ўвогуле Яўген Канстанцінавіч — шчыры беларус, найцікавейшы чалавек, якога я сёння ведаю ў Гродна, бо за свае пражытыя 83 гады ён шмат чаго бачыў, чуў, пабываў у многіх краінах свету.

У свой час Яўген Петрашэвіч быў узнагароджаны ганаровымі граматамі Міністэрства культуры СССР і БССР, Вярхоўнага Савета БССР, граматай Першага Усебеларускага фестывалю самадзейнай творчасці працоўных (1975), быў дыпламантам шостага Міжнароднага фестывалю народнай музыкі, уладальнікам дыплома абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны — за цыкл песень-балад на гістарычную тэму на вершы Яна Чачота (Гродзенскі клуб кампазітараў-аматараў). Ён з'яўляецца аўтарам скульптур для літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах, аўтар надмагільных абеліскаў бацькам і роднай сястры, аўтар вакальна-харэаграфічных кампазіцый, музыкі да спектакляў, песень, рамансаў, гімнаў і г.д. Усяго зробленага Яўгенам Канстанцінавічам на ніве беларускай літаратуры і мастацтва немагчыма пералічыць. Даўно б час яму надаць званне заслужанага дзеяча Рэспублікі Беларусь і ганаровага грамадзяніна горада Гродна.

***— Вы аднойчы сказалі: «Маё крэда — ствараць, але не вытвараць».***

— Ствараць — гэта самае высокае, што дадзена чалавеку, таму да творчасці павінны ставіцца з вялікай адказнасцю. Бо перад самім сабой і перад усімі мы ў адказе, таму «што напісана на паперы, не высечаш і сякерай». А прафесар Д. Камінскі некалі казаў: «Галоўнае да справы прыставіць драбіну» і яшчэ: «Аўтара б'юць не за тое, што напісаў, а за тое, што паказваў». Кампазітар Юры Семяняка любіў паўтараць: «Паставіць подпіс пад творам — апошняя справа». Такім чынам, з гадамі і вопытам творчы чалавек прыходзіць да скутку, набывае характэрны почырк, накірунак, і ў лепшым выпадку свой твар і самабытнасць. А наконт таго, што сёння вытвараюць, магу сказаць, што чалавек у сутнасці лянівая істота, а кампутарныя тэхналогіі — падобныя да хадуляў, на якіх хутчэй не пабяжыш.

***— Вы родам з вёскі Падбараны Мастоўскага раёна…***

— Мая вёска некалі называлася Падбарамі. Лясы высеклі, і пры Польшчы назвалі Podbozany. А пры саветах — «Подборяны». Беларусы цяпер называюць Падбараны. Такім чынам, назва вёскі выклікае перакошаную грымасу найменняў, але смеху не выклікае, а калі выклікае смех, то праз слёзы. Вёска Падбараны, якая раскінулася на левым беразе Нёмна ўніз на два кіламетры ад мястэчка Лунна, была некалі ажыўленая. Там за польскім часам хадзілі параходы, яны называліся «Баторы», «Ягайла», а ў 1939 годзе, калі прыйшлі Саветы, іх перайменавалі ў «Пушкіна», «Сталіна». Плытагоны нас вучылі рабіць свісцёлкі, свістулькі з бярозавай кары, а турысты, што ад Стоўбцаў плылі, затрымліваліся, каб паслухаць іх свіст. А мы, дзеці, бегалі паслухаць у байдарачнікаў патэфон. З дзяцінства памятаю і ўкраінца Сямёна Крывашэя. Майстра быў на розныя штукі, рабіў цудоўныя куфэркі. Дзякуючы яму я меў магчымасць асвоіць украінскія песні як свае. Вось дзе была мая кансерваторыя!

***— А што вы ведаеце пра свой род?***

— Мая маці Вольга Васільеўна з роду Рамашкаў. Дзед Васіль Рамашка жыў у Амерыцы, быў цырульнікам, а потым меў уласную цырульню. Маці разам з бабуляй Фядорай таксама там былі ў Амерыцы, але вярнулася з-за неспрыяльнага клімату. Бацька Канстанцін Канстанцінавіч Петрашэвіч у Харкаве атрымаў адукацыю і спецыяльнасць кваліфікаванага паштовага служачага. Служыў начальнікам пошты ў Лунне на Мастоўшчыне. У 1939 годзе, з прыходам савецкай улады, яго перавялі на работу ў Гродна, на пасаду галоўнага бухгалтара абласной пошты. Бацька прыняў удзел у конкурсе каліграфічнага напісання і атрымаў другую прэмію, таму што вельмі добра і прыгожа пісаў. Пры польскай уладзе працаваў са сваім старэйшым братам-цесляром па традыцыях роду.

Бацька меў таксама матэматычныя здольнасці, быў строгім чалавекам і не падзяляў захапленне сына музыкай, гэта быў дзіўны чалавек, з дзіўным лёсам, калісьці іграў на гармоніку, вывучыў па нотах «Ойча наш».

Бацькі мае былі рэпрэсаваныя, як агітатар і шпіёнка, за перапіску з матуліным бацькам Васілём і цёткамі Наталкай і Алесяй, якія жылі ў Амерыцы. Бацьку на 15 гадоў, а маці на 25 гадоў адправілі ў высылку. У іх дом пасялілі жыць кэгэбістаў.

Бацька ў Ангарску, а маці ў Архангельску ў Расіі адбылі ў ссылцы па 5 гадоў. Аднойчы Канстанцін Канстанцінавіч убачыў сон, у якім былі лічбы, якія ён потым запісаў на накрыўцы чамадана. Гэтыя лічбы і з'явіліся датай вызвалення бацькоў. Пасля вяртання на Радзіму мама і тата былі рэабілітаваныя. Бацька памёр у 1979 годзе, а маці — у 1976-м.

… У дзіцячым узросце я любіў ствараць аркестры з мясцовай дзятвы, дзе іграў на губным гармоніку. Пазней навучыўся іграць на баяне. Музычнай была наша сям'я. Дзядзька Грыша іграў на гармоніку, прадзед Піліп Мілашэвіч — на скрыпцы, а мая маці Вольга і сёстры Люда і Зіна — спявалі. Людзі прыходзілі іх паслухаць, дзівіліся і плакалі. Гэта асяроддзе народнай музыкі аказала на мяне значны ўплыў.

***— Вы згадалі свайго прадзеда Піліпа Мілашэвіча…***

— Мой прадзед Піліп Мілашэвіч, які іграў на скрыпцы, жыў у Кніжаводцах са сваёй Аўдоццяй-бабуляй. Іграў на вяселлях, вечарынках. Калі вяртаўся з вяселля, тры дні граўшы, яго запынілі хлопцы і змусілі іграць, свістаць і нагой тупаць для сваёй уцехі. «Грай або грошы аддай!» — казалі. Ён іграў і «перайграў» руку, а потым не змог іграць. І аднойчы, калі я ехаў на вяселле ў аўтобусе, іграў на баяне ўсю дарогу. А калі вярталіся з вяселля, п'яная кампанія стала да мяне прыставаць: играй тое, як мы ехалі на вяселле. Калі ім расказаў здарэнне з прадзедам, то нават п'яныя адчапіліся. Я памятаю прадзеда. Ён прыходзіў да нас у вёску Падбараны ў зрэбнай кашулі з сінім-сінім гузічкам, як і яго вочы, садзіў мяне на калені, гладзіў ласкава па галоўцы…

***— У Гродна выйшлі два вашых зборніка вершаў «Пасынкі» і «Віншаванкі». А скуль такая любоў да літаратуры?***

— Бацька мой Кастусь, бывала, вечарам пры лямпе чытаў нам Біблію або кніжку пра Ірму. І калі траплялся выраз на рускай мове: «уж настал вечером…», я аж падскокваў і крычаў: «Тата, там уж». А бацька супакойваў і казаў, што гэта слова «ўжо». Слова «ўжо» я разумеў, а слова «уж» мяне палохала.

Неяк бацька склаў эпітафію на сястру Лёлю, якая пахавана ў вёсцы Гудзевічы на Мастоўшчыне:

*На тваёй магілцы, Лёля,*
*Кветачак я пасаджу.*
*Вясна сагрэе іх уволю,*
*А я слязою акраплю… (і г.д.)*

Або аднойчы тата выдаў такія радкі:

*А, Божа ж мой, Божа мой,*
*Да чаго даждаўся…*

А я чуў гэтыя словы, пахадзіў і дабавіў:

*Баба сані прадала,*
*Што з печы спускаўся!*

Стрыечны брат Кастусь мяне таксама вучыў рыфмоўцы:

А вяскоўцы часта спявалі, я запамінаў:

*Не трэба нічога баяцца,*
*Трымайцеся ўсе грамадой.*
*Як толькі вайна распачнецца,*
*Мы кінемся дружна ў бой…*

Пасля ўсіх гэтых паэтычных «урокаў», я сам спрабаваў і працягваю спрабаваць пісаць вершы, строфы.

Аднойчы прафесар Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы выказаў мне сваю падзяку за вершы. Я яму даў тэкст песні «Пра каліну», схематычны варыянт, а ён склаў добрую песню і перадаў кампазітару Ігару Лучанку. Песня гучала нават па радыё. А калі Аляксандр быў у Гродне, я паказаў варыянт гімна Беларусі, які рыхтаваў на конкурс, ён мне трохі дапамог нават знайсці трапныя радкі. Але тады ўсе конкурсныя гімны ў Беларусі не прайшлі, бо паэт Карызна перапрацаваў савецкі гімн, які мы чуем сёння.

Нядаўна па запрашэнні наведаў на Беласточчыне дом Сцяпана Копа. Цікавы і таленавіты ён чалавек. У застоллі мы спявалі беластоцкія і гарадзенскія песні, якімі мы потым абмяняліся. Я Сцяпану падараваў песні сваёй роднай вёскі Падбараны, а ён — некалькі сваіх песень, у тым ліку і «Пакахала беларуса».

Я заўсёды шчыра сябраваў і сябрую з паэтамі. На іх вершы напісаў сотні песень. Пісаў песні на словы Уладзіміра Шурпы, Янкі Насуты, Дануты Бічэль, Ларысы Геніюш, Станіслава Судніка, Міхася Мельніка, Уладзіміра Васько, Пятра Макаравіча, Апанаса Цыхуна, Міхася Губернатарава, Юркі Голуба, і на твае, Сяргей, вершы.

З цягам часу стаў і сам пісаць тэксты не толькі песень, але і сур'ёзныя вершы. Напісаў «Баладу пра Грунвальд», «Сказ пра Каложу», выдаў кнігі вершаў «Пасынкі» (Гродна, 2012) і «Віншаванкі» (Гродна, 2013). Калегі і сябры мае кажуць, што запозна я пачаў пісаць вершы. А я ў адказ кажу, што зярняты, якія зарадзіліся ў маленстве, прараслі своечасова і, як спелы яблык, упалі на галаву Ньютона…

А яшчэ я з дзяцінства люблю афарызмы. І цяпер у сталым узросце яны не супярэчаць маёй натуры. Бывае ноччу штосьці будзіць, каб запісаць думку ці мелодыю, а калі запішу, то нібы чую: а цяпер можаш спаць.

У студэнцкія гады мяне называлі дзіваком, бо быў я, як не ўсе. А з цягам часу, калі пабывалі мае сябры за мяжой, то казалі, што там усе такія дзівакі. Яшчэ мяне клікалі народным філосафам, а я казаў ім: «філасОф», не, кажуць, «філОсаф».Такім чынам, аналітычнаму мысленню, я лічу, спрыяла ўсё ж музыка і закваска ў маленстве, якая нават вылілася і ў сатырычныя вясёлыя творы, як, напрыклад, «Байкі-непазяхайкі».

***— Вы яшчэ, спадар Яўген, добры мастак, разьбяр…***

— У маленстве мы, падлеткі, рабілі цацкі самі. І гэта спрыяла самавыказванню сваёй фантазіі ў канкрэтных формах. А бацька займаўся цяслярствам і сталяркай. Калі ён пілаваў якую-небудзь дошчачку ці што рабіў, мы ўважліва сачылі, вучыліся. Ён любіў майстраваць параходы, самалёцікі, свісцёлкі. У дарослым узросце, калі бываў у дзіцячых летніках, я майстраваў дзецям з кары розныя фігуркі, скрыначкі з бяросты. Дзеці імі любяць гуляць, але цацкі павінны рабіць усё ж дарослыя. Так я стаў і мастаком. Зрабіў неяк Матку Боскую, якую Алесь Белакоз узяў для свайго Гудзевіцкага музея. Для Гудзевіч я яшчэ высек памятны знак на камяні: «Гудзевічы, 1738». З граніту сам зрабіў помнік бацькам. А ў Даніі з драўлянага пню высек вікінга.

***— А адкуль, спадар Яўген, усё жыццё чэрпаеце сілы для творчасці?***

— У маладыя гады аднойчы ў Беластоку набыў кніжку М. Міхальскай «Joga dla wszystkich». І потым часта займаўся стойкай на галаве і іншымі практыкаваннямі. Засвоіў глыбокае дыханне дыяфрагмай (ніжнім дыханнем). І цяпер, калі ў мяне пытаюцца: ці займаешся ёгай, адказваю: ёга цяпер займаецца мной. Вось гэта мая сіла.

***— Ці ўсё ж музыка ў вас застаецца на першым месцы?***

— Лічу, што людзі падзяляюцца на музыкальных і не музыкальных. Музыка — рэч універсальная. Музыка — маё жыццё. Музыцы я не здрадзіў ніколі, і яна мне таксама. Запісваю заўсёды не тое, што з галавы выйшла, а тое, што ў галаву ўвайшло.

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

## ПАДРАСТАЮЧЫ, ДОМА

Арсень ЛІС

Заканчэнне.
Пачатак у №№34–36

**Калі пасля трыццаці я пачаў больш-менш стала брацца за пяро, наведаўся ў віленскія архівы ды бібліятэкі, пазнаёміўся з заходнебеларускай перыёдыкай 1920-х гадоў, убачыў, якую вялізную ахвярную працу прарабіла беларуская інтэлігенцыя дзеля дабра, уседамлення і вызвалення свайго народа.**

Досыць блізка я тады пазнаў жыццё і грамадска-палітычную дзейнасць Рака-Міхайлоўскага як настаўніка-асветніка, арганізатара беларусаў-вайскоўцаў, у 1917 годзе ён узначальваў часовы камітэт Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, нарэшце, як стваральніка і апекуна незалежнага беларускага перыядычнага друку часоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1966-м, прыхапіўшы з сабою кніжку «Браніслаў Тарашкевіч», я паехаў на малую радзіму Рака-Міхайлоўскага, у вёску Максімаўка, каля Радашковіч. Застаў малодшага брата незабыўнага дзеяча, Аляксандра.

Той успомніў, што Сымон казаў яму: «Вось перамога «Грамада», атрымаеш зямлю. Начэпіш на шыю сявенькy і пойдзеш прама з-за варот сеяць». Проста тлумачыў, наглядна, брату-селяніну. У польскім сойме ў 20-х гадах Сымон Рак-Міхайлоўскі доказна выступаў за зямельную рэформу, за падзел вялізных памешчыцкіх латыфундый між працоўнага сялянства. А калі быў асуджаны польскім міжваенным рэжымам на 12 гадоў, у турме пісаў разгорнуты трактат з надзеяй урэчаісніць фермерскую гаспадарку ў Беларусі.

На ад'езд з Максімаўкі я падараваў Аляксандру Раку кніжку, у якой было і нешта належнае сказана пра яго старэйшага брата. У душы пашкадаваў, што рэдактарка акадэмічнага выдавецтва пры рэдагаванні майго рукапісу апусціла апошняе слова Сымона Рака-Міхайлоўскага, сказанае ім у 1928 годзе на віленскім акружным судзе падчас расправы польскай адміністрацыяй над грамадаўскім кіраўніцтвам. А закончыў тады беларускі палітык сваё апошняе слова так: «Калі б у беларускім народзе ў 1917 годзе была такая нацыянальная свядомасць, як цяпер у Заходняй Беларусі, то не сядзелі б мы сёння на лаве падсудных».

...На развітанне Аляксандр Рак нечакана спытаўся ў мяне: «А скажыце, чалавеча, ці гэта вас Масква прысылае, ці беларусы самі пачынаюць даходзіць праўды?» Малодшы Рак-Міхайлоўскі ведаў пра трагедыю свайго брата і яго сям'і, жонкі Надзі і сына-студэнта Раґвалода. У канцы 50-х гадоў прайшла, адбылася іх пасмяротная рэабілітацыя.

Апошнія словы майго дзеда Петрака, сказаныя ім пры адыходзе ў вечнасць, уразліва ўспомніліся мне, калі праз гады даведаўся пра жыццёвы вопыт, сведчанне Сымона Рака-Міхайлоўскага, пачутае ад яго на Салаўках сябрам па няволі. Украінец-палітзняволены Підгайскі, якому ўдалося выжыць у клятыя 30-я гады, напісаў, што Рак-Міхайлоўскі не дакараў нялюдскі таталітарны рэжым... Ён горка папракаў, вініў у сваёй драме сябе: «Так мне і трэба. Як я ім (бальшавікам) паверыў. Я ж іх добра пазнаў у 1917 годзе ў Мінску. Меў досвед жорсткага супрацьстаяння з таварышамі з Абліспалкомзапа Меснiковым, Кнорыным, Агабекавым і інш. Гэта яны ўчынілі збройны гвалт з Усебеларускага з'езду ў снежні 1917-га, былі злоснымі праціўнікамі самавызначэння беларускага народа нават у форме Беларускай Савецкай Рэспублікі: самаўпраўна паводзілі сябе гаспадарамі на беларускай зямлі».

Самапапрок беларускага палітыка, у канцы жыцця — вязня, быў глыбока балючы, шчыра-жорсткі. Каяўся, што ўступіў у кампартыю. Не спадзяваўся такой нечаканай трансфармацыі палітычнай сістэмы вялікай краіны ў нялюдскія формы таталітарызму?

***

Праявіў невялікую прадпрымальніцкую здагадку і ўнук дзеда Петрака. Праўда, адзін усяго толькі раз за сваё не такое ўжо і кароткае жыццё. Быў яшчэ падлеткам.

Прыгадалася, хачу расказаць пра пачаткі свайго кнігазбірання. Не абышлося ў ім без жарсці да ўмення здабыць на набыццё кніг спосаб і сродкі. Тым больш, калі ўлічыць, што адбывалася тое ў 1946 годзе, у мае дванаццаць.

Да таго часу ў мяне было толькі некалькі кніжак. Праўда, яны складалі добры фундамент маёй асветы. Маю на ўвазе тры чытанкі Леаніды Гарэцкай «Родны край» — адпаведна, да другога, трэцяга і чацвёртага класаў. Акрамя таго стрыечны брат Генадзь Сідаровіч за час навучання ў ВБГ у Вільні прывёз мне пару кніг Л. Талстога



Генадзь Пятровіч Матусевіч (г.Чэрвень). «Прысвячаецца заснавальнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады». 2006. Палатно, алей

і М. Лермантава ў перакладзе Макара Краўцова. Мабілізаваны летам 1944 года на фронт, адваяваўшы і адслужыўшы сем год у Германіі, падараваў надрукаваныя там два шырокафарматныя тамы твораў М.Ю. Лермантава і І.С. Тургенева ў арыгінале.

Да гэтага часу я ўжо пачаў рупіцца аб уласным кнігазборы сам. Першы раз прыехаўшы ў Маладзечна, трапіў на барахолку, якая тады разгарнулася пры самым вакзале. Выглядала тая гандлёвая пляцовачка не надта самавіта. Лужыны, дзе-нідзе дошкі, кінуты для зручнейшага пераходу, побач воданапорная вежа ў рыштаваннях, на якіх пацюку краталіся палонныя немцы. Гандляры, дзе хто як, прымасціліся з немудрагелістым таварам. Аж бачу ў аднаго кніжачкі, і нядорага. Купіў Ляскова «Чалавек на варце». Кінулася ў вочы, што ў жанчыны вокаімгненна раскупляюць яблыкі.

Мільганула думка: у нас жа дома, у дзедавым садзе, іх стольcкі асыпаецца за дзень, што не паспяваеш падбіраць. Назаўтра з чамаданчыкам летніх, бела-ружовых з кіслінкай, мясцовага заводу яблыкаў рушыў у Маладзечна. Спусціў танна, але набралася крыху рублёвак ды трохрублёвак за нейкіх хвілін дваццаць. Зараз жа выправіўся ў кніжны магазін, які аказаўся чамусьці на другім канцы горада. Было рана, магазін яшчэ стаяў зачынены. Прыкра кальнуў, помніцца, запіс на паперчыне, прыклеенай на дзвярах «Книги на белорусском языке»... Гэта апошняе ў ім. Прысеў на сонечным драўляным ганку, чакаў, пэўна, з гадзіну. Калі адчынілі, на кніжнай паліцы адразу згледзеў «Дрыгву» Якуба Коласа. Купіў кніжку апавяданняў Ядвігіна Ш., якую аценіў толькі пазней, падросшы. Трапіўся і невялікі зборнік вершаў Лермантава. Вершы паэта нейк лёгка, самі сабой, запаміналіся. Сярод іх гэты:

*«Гарун бежал быстрее лани,*
*Быстрей, чем заяц от орла;*
*Бежал он в страхе с поля брани,*
*Где кровь черкесская текла;*
*Отец и два родные брата*
*За честь и вольность там легли,*
*И под пятой у супостата*
*Лежат их головы в пыли.*
*Их кровь течет и просят мщенья,*
*Гарун забыл свой долг и стыд;*
*Он растерял в пылу сраженья*
*Винтовку, шашку — и бежит!..»*


Фота з архіва аўтара
Арсень Ліс сярод аднакласнікаў. 10-ы клас

Уражвалі матчыны словы, сказаныя сыну, які, збегшы з поля бою, кінуў там бацьку і братоў:

*— Ты отомстил? — Не отомстил.*
*— Ты раб и трус и мне не сын!*

Падчас другога свайго бізнэс-з'езду ў Маладзечна ў той жа кнігарні я натрапіў на зборнікі апавяданняў Міхася Лынькова і Кузьмы Чорнага. Фраза з К. Чорнага «У ціхім пошуме спелага жыта чуў я вялікія буры» неяк доўга час ад часу ўспłывала ў памяці. Мо настройвала на чаканне, успрыманне ў будучыні прозы славутага беларускага эпіка.

У чарговае наведванне Маладзечна ў закутку прадуктовага магазіна мне ўдалося натрапіць на том выбранага Янкі Купалы. Кніга паэта, апраўленая ў белую грубую папяровую вокладку, улучала многа радкоў, строфаў, цэлых вершаў, што самі западалі ў памяць, каторыя адразу, а іншыя — пазней, — на ўсё жыццё.

Ад узнёслых, рамантычных, часам напяваных бацькам, памятных яму з год маладосці, 20-х:

*Гэй, наперад, покі сэрца*
*Б'ецца, рвецца на прастор,*
*Годзе млеці ў паняверцы;*
*Гэй, да сонца! Гэй, да зор!*
*Хай бацькі стагналі ўчора,*
*Йшлі на той свет без пары;*
*Сёння ў нашай моцы воля.*
*Мы — жыцця гаспадары!*

Да палемічных, звернутых да непрыяцеляў беларускага Адраджэння, беларускай мары аб годнай будучыні:

*Напасцю, лаянкай напраснай*
*Грудзей не варта мазаліць!*
*Не пагасіць вам праўды яснай:*
*Жыў беларус і будзе жыць!*

Да роздумных:

*Ночка цёмная на свеце*
*Вечна не пануе;*
*Зерне, кінутае ў ніву,*
*Ўсходзіць ды красуе.*

І яшчэ:

*Нам трэба жыць і долю папраўляць,*
*Каб з часам нас патомкі не клялі.*

Ці страфа з верша «Выйдзі...», дзе Купала — знаўца гістарычнага лёсу беларускага народа і разам прарок яго:

*Сплецену з церняў маеш карону,*
*Харам твой — неба і нівы краса.*
*Царства ў чатыры дрэмле старонЫ,*
*Слугі — мазольных рук міліёны...*
*Выйдзі!.. Чакае вясна!..*

І ўздымны, заклічны зварот паэта да моладзі:

*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягоднамі;*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад*
*між народамі!..*

Спабіўшыся на хоць і невялікі ўласны заробак за яблыкі, акрамя кніг мастацкай прозы і паэзіі закупіў сабе падручнікі па гісторыі і беларускай літаратуры адразу на наступныя тры-чатыры гады наперад. Неяк ужо вылучаў гэтыя два прадметы для сябе.

Дарэчы, што да падручніка па беларускай літаратуры паваеннага часу, зарыентаваўся ў тым, вядома, пазней, укладальніцай яго была Алеся Александровіч, не быў ён такі ідэалагічна манатонны, як пазнейшыя яго аналагі. Уключаў шмат твораў дарэвалюцыйнага часу, у тым ліку малавядомых «нашаніўскіх» аўтараў.

ВЕЧАРЫНА

# НА ХВАЛІ РАМАНТЫЗМУ

Марат ГАРАВЫ

**Вечарына «На хвалі рамантызму» адбылася 30 верасня ў Мінску, у Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску.**



Кніга Ірыны Шумскай «Мечыслаў Карловіч»

На ёй была прэзентаваная кніга дактаранткі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту культуры і мастацтваў Ірыны Шумскай «Мечыслаў Карловіч. Забыты беларускі геній», што выйшла ў выдавецтве «Харвест» накладам у 1 500 паасобнікаў.

Сын вядомага лінгвіста, этнографа, фалькларыста і музыказнаўцы Яна Карловіча, бацька польскага сімфанізму Мечыслаў Карловіч (11.12.1876, вёска Вішнева Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці — 08.02.1909, Закапанэ, Польшча) — скрыпач, дырыжор, кампазітар, публіцыст, фатограф і альпініст. Ён быў адным з тых, хто здолеў узнесці традыцыі ўсходнеславянскага меласу на агульнаеўрапейскі ўзровень. Шэраг створаных Мечыславам Карловічам музычных твораў абапіраліся на беларускія народныя мелодыі. Сярод іх — знакамітая сімфонія пад назвай «Літоўская рапсодыя» (1906).

Як распавяла Ірына Шумская, восенню 1906 года, знаходзячыся ў Лейпцыгу на курсе ўдасканалення дырыжорскага майстэрства, Мечыслаў Карловіч у лісце да сябра Адольфа Хыбіньскага так пісаў пра «Літоўскую рапсодыю»: «Стараўся закласці ў яе суцэльны жаль, смутак і векавую няволю таго люду, песні якога гучалі ў маім дзяцінстве». «Поўная драматызму і наскрозь лірычная па змесце, «Літоўская рапсодыя» стала своеасаблівай данінай памяці роднаму краю, выдатна ілюструючы ўвасабленне нацыянальнага духу ў музыцы», — сказала мастацтвазнаўца. Паводле яе слоў, асноўны лейтматыў твору — мелодыя жніўнай песні «Ды пара дамоў» — нібыта малюе традыцыйны беларускі вясковы пейзаж, у якім цягам стагоддзяў мала што змянілася.

На думку Шумскай, Мечыслаў Карловіч быў адным з выдатнейшых прадстаўнікоў неарамантычнага сімфанізму; кампазітарам-наватарам, які заклаў падмурак для шырокага выкарыстання найноўшых еўрапейскіх тэхнік інструментоўкі. Карловіч — выключна адораны чалавек, што да канца дзён падтрымліваў шчыльную ментальную сувязь са сваёй Айчынай, для якой ён зрабіў нямала за сваё кароткае жыццё (загінуў у 32-гадовым узросце ад сходу снегу ў Татрах падчас вандроўкі ў гарах — М.Г.). «Можна не сумнявацца, што калі б лёс падараваў Карловічу хаця б на сем-дзесяць гадоў больш, яго б узгадвалі сёння на адным узроўні з самымі славутымі кампазітарамі свету — настолькі яскравым і самабытным быў творчы патэнцыял гэтай неардынарнай асобы», — падкрэсліла Ірына Шумская. На яе меркаванне, даўно надышоў час, каб беларусы належным чынам ушанавалі памяць гэтага вялікага маэстра.

Падчас вечарыны адбыўся канцэрт ансамбля Беларускай дзяржаўнай філармоніі «Вытокі». У іх выкананні прагучалі творы Фрэдэрыка Шапэна, Станіслава Манюшкі, братоў Аляксея і Міхала Ельскіх, Яна Тарасевіча, Канстанціна Горскага, Яна і Мечыслава Карловічаў.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ


Мінулагодні кангрэс даследчыкаў

# ТРЭЦІ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**З 11 па 13 кастрычніка ў трэці раз утульны Універсітэт Вітаўта Вялікага ў Коўне збярэ ўсіх, хто неабыякавы да мінуўшчыны, а таксама сучасных праблем, якія стаяць перад Беларуссю.**

Таксама арганізатарамі Трэцяга міжнароднага кангрэсу даследчыкаў Беларусі з'яўляецца незалежны Інстытут «Палітычная сфера», Інстытут Вялікага Княства Літоўскага, Міжнародны Кансорцыум «ЕўраБеларусь», Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў, інтэрнэт-часопіс «Новая Еўропа». Плануецца, што ў форуме прыме ўдзел каля 400 навукоўцаў з родных краін.

Падчас кангрэсу праца даследчыкаў будзе падзелена на 14 секцый. Сярод іншага госці форума абмяркуюць праблемы сучаснай беларускай эканомікі, перспектывы трансфармацыі беларускага грамадства, аспекты развіцця грамадзянскай супольнасці, адукацыі і навукі.

Вялікую цікавасць прадстаўляе гістарычны блок канферэнцыі. Акрамя гісторыі ВКЛ і перыяду ўваходжання беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі, значная ўвага будзе нададзена падзеям XX стагоддзя. У гэтым сэнсе цікавасць уяўляе 8-я секцыя, дзе будуць абмяркоўвацца праблемы Другой сусветнай вайны. У прыватнасці, у дакладах шведскіх даследчыкаў Матса Дэланда і Андрэя Катлярчука будуць асветленыя малавядомыя раней аспекты гісторыі Беларусі, звязаныя з лёсам сяброў зондэркаманды Арайса ў паваеннай Беларусі, а таксама трагедыі цыган падчас Другой сусветнай вайны.

Значная ўвага будзе нададзена і гісторыі Заходняй Беларусі ў 1920–1930 гадах. У савецкія часы гэты сюжэт, на жаль, даследаваўся вельмі павярхоўна, а на высновы сённяшніх афіцыйных гісторыкаў уплываюць ідэалагічныя штампы. Даследчыкі абмяркуюць гісторыю дзейнасці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў часы сусветнага эканамічнага крызісу на тэрыторыі Палескага ваяводства (Пётр Ціхарацкі, Польшча), а таксама тое, як «аграрнае пытанне» разглядалася прадстаўнікамі заходнебеларускіх палітычных арганізацый (Віталь Гарматны, Беларусь). Вялікая ўвага будзе нададзена і гісторыі ўдзелу беларусаў у складзе Войска Польскага ў вераснёўскай кампаніі 1939 года (Ігар Мельнікаў, Беларусь).

Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі становіцца выдатнай пляцоўкай для абмену поглядамі паміж айчыннымі і замежнымі даследчыкамі, якія займаюцца беларускай праблематыкай. З кожным годам колькасць удзельнікаў форуму ўзрастае.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1211

Падпісана да друку 4.10.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.